ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 17 (2575)

30 красавіка 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1500 рублёў.

САЦЫЯЛЬНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## АБАРОНА ПАВІННА БЫЦЬ ГАРАНТАВАНА КОЖНАМУ

**Мы працягваем знаёміць нашых чытачоў з вынікамі работы, што праводзіцца ў Цэнтры сацыяльных даследаванняў Інстытута сацыяльна-палітычных праблем пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Сёння начальнік цэнтра, прафесар, доктар біялагічных навук Антон ЧАШЧАВІК расказвае пра становішча ў сацыяльным забеспячэнні насельніцтва, пра тыя праблемы, з якімі часцей за ўсё сутыкаюцца беларускія пенсіянеры, інваліды, беспрацоўныя...**

— *Антон Баляслававіч, якая ж карціна існуе сёння на "сацыяльным фронце"?*

— Досыць складаная. Тыя негатыўныя з'явы ў развіцці краіны, што праявіліся яшчэ ў 70-я гады, уплываюць і зараз. 82 працэнты жыхароў краіны маюць даходы, ніжэйшыя за мінімальны спажывецкі бюджэт. Каля 40 працэнтаў насельніцтва знаходзіцца за рысай беднасці. Рэальныя грашовыя даходы ў параўнанні з 1991 годам знізіліся амаль напалову. Асабліва ў цяжкім стане апынуліся вучоныя, настаўнікі, урачы, дзеячы культуры.

За апошнія гады з-за росту стратных і збанкрутаваных прадпрыемстваў з улікам скрытага беспрацоўя колькасць беспрацоўных перавысіла 600 тысяч чалавек. Асаблівa трывожыць, што сярод іх шмат моладзі — амаль трэцяя частка.

Для нашага рынку працы характэрнае несупадзенне попыту і прапа-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

«ВЯЛІКДЗЕНЬ-98» У ТРАЕЦКІМ



**У апошнія гады Вялікдзень перастаў быць ціхім сямейным, нават трошкі патаемным з-за боязі перад атэістычнымі ўладамі святам. У перадвялікодную суботу тысячы людзей збіраюцца вакол храмаў, каб атрымаць Боскае благаславенне ад святароў, асвяціць традыцыйныя велікодныя прысмакі — кулічы і яйкі. На ўсяночную службу таксама ідуць і ідуць не толькі старыя, але і моладзь, а потым на досвітку з запаленымі свечкамі вяртаюцца дахаты, каб за сталом сярод сваіх сямейнікаў адзначыць самае раднасае хрысціянскае свята.**

*(Працяг фотарэпартажу на 8-й стар.).*

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

## ПАТУШАНАЕ ЖЫЦЦЁ

Яго арыштавалі ноччу 2 лістапада 1937 года. Паднялі з ложка, вывелі з кватэры і ў "чорным воране" павезлі на Лубянку. А на другі дзень успед за мастаком чэкісты "арыштавалі" і вывезлі з кватэры больш за 300 яго карцін, якія былі падрыхтаваны для выставы па выніках творчай камандзіроўкі ў родную Беларусь. Дзе яны цяпер? Невядома. Пошукам карцін доўга займалася жонка жывапісца Надзея Васільева, якая жыве ў Маскве, але так і не натрапіла на іх след. Усё ж у КДБ пасля доўгіх і настойлівых яе запытаў прызналіся, што з маскоўскай кватэры мастака было вывезена толькі 173 творы. Але і іх не вярнулі.

Верная спадарожніца жыцця мастака жонка, а цяпер удава Надзея Міронаўна, якая жыве ў Маскве, доўгі час абівала парогі кадэбісцкіх устаноў, каб даведацца пра пакутны лёс свайго мужа, але ёй кожны раз адказвалі: "Асуджаны без права перапіскі". І ў 1958 годзе нарэшце выпісалі даведку, што мастак рэабілітаваны. А праз шмат гадоў даведалася: яе муж, Раман Мацвеевіч Семашкевіч, быў расстраляны на Лубянцы праз месяц пасля арышту па пастанове жахліваведомай "тройкі". Па выдуманым у карных органах абвінавачванні — контррэвалюцыйная агітацыя.

У маі 1990 года Н. Васільевай супрацоўнікі КДБ паведамілі, што ў матэрыялах справы Семашкевіча "ёсць вопіс карцін, канфіскаваных пры вобыску 19 снежня 1937 года. Ёсць таксама акт перадачы ў 1940 годзе ўсіх карцін з НКУС у Дзяржфонд і на базу Маскоўскага ўпраўлення гандлю. Устанавіць месцазнаходжанне карцін не ўдалося. На гэта Надзея Міронаўна адказала: "Такога не было. Ні ў час арышту, ні ў час канфіскацыі карцін ніякі вопіс не праводзіўся. Дакумент, на які спасылаюцца ў КДБ, быў складзены 23 чэрвеня 1940 года — праз два з паловай гады пасля арышту мужа. Гэта грубая фальсіфікацыя чэкістаў".

У мастака, як бачым, адабралі не толькі жыццё, але і плён яго працы.

(Заканчэнне на 5-й стар.).

*БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР*

## ХРАМ ХАРАСТВА

Самотным ціхім храмам харaства называў Паэзію цудоўны наш беларускі паэт Уладзімір Жылка. Нядаўна ў Мінскім педагагічным універсітэце імя М. Танка адбылася прэзентацыя кнігі яго літаратурнай спадчыны — "Выбраныя творы", выдадзеная "Беларускім кнігазборам".

Залу загадзя запоўнілі студэнты і выкладчыкі, літаратары і навукоўцы, журналісты. Тым, хто, блукаючы па універсітэцкіх лабірынтах у пошуках запаветнай аўдыторыі, з'явіўся пазней, давялося стаяць. Галоўнай адметнасцю вечарыны стаўся ўдзел сваякоў паэта — унучкі Алы Лазаравай (прозвішча па мужу — Гаварун), пляменніка, што носіць такое ж імя і прозвішча, як і яго слынны дзядзька, — Уладзімір Жылка, і ўнучатага пляменніка Сяргея Ржэчыцкага, які, дарэчы, актыўна падтрымаў выданне названай кнігі.

...І вось урачысты момант. Называецца рабочы прэзідыум, які займае адведзеныя месцы. Ля мікрафона — вядучы Васіль Зуёнак. Цёплае ўступнае слова гаворыцца пра падзею, якая сабрала людзей, пра ўдзельнікаў імпрэзы, называюцца прамоўцы.

Непрацяглыя, але змястоўныя былі выступленні загадчыцы кафедры беларускай літаратуры М. Шаўлоўскай, прэзідэнта і галоўнага рэдактара "Беларускага кнігазбору" К. Цвіркі, яго намесніка Я. Янушкевіча, укладальніка "Выбраных твораў" У. Жылкі, аўтара прадмовы і каментарыяў М. Скоблы. Кожны з іх казаў штосьці адметнае, сваё, але скразной ніяй гаворкі былі лёс і талент У. Жылкі, значэнне яго духоўнай спадчыны, некалі схаванай таталітарным рэжымам ад чытача, не раз згадвалася імя найдасведчанага першага даследчыка, знатака паэзіі У. Жылкі і аўтара кнігі пра паэта, яго творчасць "Ветразі Адысея" — Уладзіміра Калесніка.

Першаю з шаноўнае жылкавае радзіны адважылася выступіць прафесійная настаўніца (працуе на Украіне) унучка паэта Ала Лазарава-Гаварун. Эмацыянальная, яна з хваляваннем распавядала пра жыццёвы шлях і драму жыцця ссыльнага хворага на сухоты паэта У. Жылкі, пра яго высокі інтэлект і эрудыцыю (ён ведаў, акрамя, вядома, беларускай і рускай моваў, сербскую, польскую, украінскую, чэшскую, французскую ды нямецкую мовы, а дзякуючы веданню латыні мог чытаць па-італьянску і па-іспанску), пра яго строгі мастацкі густ, пачуццё самоты паэта, дзякавала ўсім стваральнікам кнігі, добрае слова казала пра Уладзіміра Калесніка, які яшчэ тады, як пад забаронаю знаходзіліся творы У. Жылкі, пісаў пра яго паэзію.

Пляменнік паэта Уладзімір Жылка быў нешматслоўны, затое афарыстычны, мудры, які ўмела выкарыстоўваў біблейскія тэрміны ды імёны — Ісуса Хрыста, Іуды і Каіна, гаварыў пра святло паэзіі выдатнага лірыка, свайго роднага дзядзькі.

Элемент сенсацыйнасці прысутнічаў у словах Сяргея Ржэчыцкага пра тое, што выданне, прэзентацыя якога адбылася, некалі, як за чарговаю адліга прыйдзе сапраўдная вясна, можа быць істотна дапоўнена творамі, якія, відаць, усё яшчэ томяцца ў цемры падвалаў у так званай "крымінальнай справе".

На вечарыне гучалі вершы У. Жылкі ў выкананні артыста Мікалая Лявончыка. Бард Алесь Камоцкі і студэнтка Вольга Бурак спявалі пад гітару песні на вершы паэта. Як запэўніў прысутных А. Камоцкі, ім будзе запісана цэлая касета такіх песень.

Завяршаючы вечарыну, Марыя Шаўлоўская сардэчна дзякавала за ўдзел у святе сваякам У. Жылкі, зычыла ім здароўя і захавання светлай памяці таленавітага паэта, гонару за яго імя. Руплівцам "Беларускага кнігазбору" яна пажадала ўпэўненых крокаў і адметных выданняў, студэнтам — паглыблення ведаў і адчування харaства паэтычнага слова У. Жылкі, пераймання яго жыццёвай мудрасці і трывушчасці.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

**(Працяг тэмы "Беларускі кнігазбор" на 6-й стар.).**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

# ВЯЛІКДЗЕНЬ З ПРЭЗІДЭНТАМ



**Ужо стала традыцыяй прысутнасць на велікодным богаслужэнні ў Свята-Духавым кафедральным саборы ў Мінску вышэйшых службовых асоб Беларусі. 19 красавіка Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, іншыя кіраўнікі дзяржавы таксама прынялі ўдзел у велікодным богаслужэнні, якое праводзіў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

**У гэты дзень у храме гучалі малітвы, якія славяць Сына Божага, верных яго паплечнікаў і паслядоўнікаў, а таксама тых, хто сваёй дзейнасцю творыць мір і дабро людзям. Асаблівыя словы ўдзячнасці прагучалі ў звароце мітрапаліта Філарэта да Прэзідэнта краіны. Ён перадаў Аляксандру Лукашэнку велікоднае прывітанне ад патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II, а таксама падзяку за дапамогу Новаіерусалімскаму манастыру.**

**Прэзідэнт краіны, у сваю чаргу, павіншаваў усіх са святам Вялікадня, падзякаваў служыцелям царквы за падтрымку, за іх служэнне міру і дабру і за тую ролю, якую яны адыгрываюць у духоўным станаўленні грамадства. "Я хачу запэўніць вас, што ўлады зробяць усё, каб адрадзіць духоўнасць у імя адзінства і стойкасці нашага народа".**

*КАНТАКТЫ*

# УЗНАГАРОДА Д. КЭРНСУ



**Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей ЛІНГ па даручэнню Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі ўручыў медаль Францішка Скарыны каардынатару дабрачыннай праграмы "Рамапо — дзецям Чарнобыля" амерыканскаму настаўніку Дональду КЭРНСУ (на здымку).**

**Гэтай узнагароды спадар Кэрнс удастоены за вялікі ўклад у развіццё дружбы паміж беларускай і амерыканскай моладдзю.**

**У сярэдзіне красавіка дэлегацыя вучняў школы горада Рамапо (штат Нью-Йорк) чарговы раз зрабіла паездку па Беларусі. Амерыканскія школьнікі выступілі з канцэртамі перад сваімі равеснікамі ў Шклоўскім, Нясвіжскім, Шаркоўшчынскім раёнах і Мінску. Акрамя таго, яны перадалі беларускім школам і бальніцам медыкаменты і дзіцячыя цацкі.**

**З ВЫСТУПЛЕННЯ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. ЛУКАШЭНКІ НА СУМЕСНЫМ ПАСЯДЖЭННІ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ І САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ 17 КРАСАВІКА**

*Паважаныя сябры!*

*Паверце мне, некаторыя заходнія дзяржавы трацяць сёння вялікія грошы, каб праводзіць лінію апазіцыі на тэрыторыі нашай дзяржавы. Нават і праграму ТАСІС на гэта пераарыентавалі. Вось яна цяпер знаходзіцца ва ўрадзе на ўзгадненні. Куды, вы думаеце, мільёны запланаваны ў гэтай праграме? Не на падтрымку тых, хто пацярпеў у чарнобыльскай зоне, а на фінансаванне апазіцыйных сродкаў масавай інфармацыі. Поўнасцю распісваецца, колькі, куды і каму.*

*Нас крытыкуюць, што ў нас ёсць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Але мы ж не крытыкуем некаторых заходніх "настаўнікаў" за тое, што яны падтрымліваюць нашу апазіцыю сродкамі заходняга падаткаплацельшчыка. Мы ж таксама будзем інфармаваць заходняе грамадства аб тым, куды трацяць грошы іх палітыкі і ідэолагі. Падаткаплацельшчыкі Захаду грошы даюць для таго, каб падтрымаць беларускі народ, які пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы, каб падтрымаць дзяржаву, якая чвэрць бюджэту траціць на мінімізацыю вынікаў ад гэтай страшнай бяды. Бяды, між іншым, не намі створанай.*

*Таму мы будзем свайму народу і простым людзям за рубяжом расказваць, якую палітыку праводзяць некаторыя заходнія дзяржавы і іх спецслужбы ў адносінах да беларускай дзяржавы. Мы гэта робім цывілізавана, спакойна, добразычліва, запрашаючы паслоў асобных краін і паказваючы ім пэўныя матэрыялы. Мы так і будзем рабіць. Але калі тут будуць парушаны пэўныя межы, мы вымушаны будзем аб гэтым інфармаваць шырокую грамадскасць, у тым ліку ў вашых, панове, дзяржавах. Думаю, вам за гэта дзякуй не скажуць.*

*Ідэалагічная работа, контрпрапаганда, калі хочаце, — пытанне нумар адзін, ад гэтага адыходзіць не трэба. Не трэба баяцца сказаць слова ў абгрунтаванне нашага курсу і на тэлебачанні, і ў іншых сродках масавай інфармацыі. Калі нехта перашкаджае таму, каб чалавек прыйшоў на тэлебачанне і выказаў сваю думку, мы ў стане паправіць сітуацыю. Патрэбна цэласная сістэма інфармацыйна-ідэалагічнай работы. Трэба часцей сустракацца з людзьмі, расказваць ім аб палітыцы, якая праводзіцца, нашых дасягненнях і праблемах. На сустрэчы з насельніцтвам павінны прыходзіць адказныя прадстаўнікі з парламента, з Адміністрацыі Прэзідэнта, з урада, сам Прэзідэнт.*

*Бо калі прыязджаеш да людзей і проста, у нязмушанай абстаноўцы, пачынаеш расказваць аб праблемах, складанасцях, цяжкасцях, аб перспектывах, чалавек нас пачынае больш разумець. Тады нам няма чаго баяцца ніякіх заходніх, усходніх ці яшчэ нейкіх паўднёвых, паўночных грошай, баяцца таго, што яны прыйдуць сюды і будуць падтрымліваць апазіцыю.*

*Я яшчэ раз хачу падкрэсліць: мы ні ў якім разе не супраць апазіцыі. Калі ў дзяржаве ёсць апазіцыя, значыць улада драмаць не будзе і будзе мацнейшай. Гэта натуральна, гэта зразумела. Але мы за такую апазіцыю, якая сябе паводзіць канструктыўна, якая сёння хоць нешта пазітыўнае прапаноўвае. Мы за такую апазіцыю, і мы гатовы з такой апазіцыяй супрацоўнічаць. Мы сябе лічым уладай досыць моцнай, для таго каб не баяцца апазіцыі".*

*КУЛЬТУРА*

# ПРЭЗІДЭНЦКІ ФОНД

**Стварэнню спрыяльных умоў для далейшага развіцця ў нашай рэспубліцы нацыянальнай культуры, пашырэнню культурных сувязяў з іншымі краінамі і сацыяльнай падтрымцы творчай інтэлігенцыі дапаможа Фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ён створаны ўказам Аляксандра Лукашэнкі ад 15 красавіка гэтага года.**

**Са сродкаў фонду, сфарміраваных за кошт бюджэтных асігнаванняў і дабрачынных узносаў, будуць фінансавацца мерапрыемствы, што праводзяцца ў рамках рэспубліканскіх праграм у галіне культуры і мастацтва. Пры гэтым прыярытэты вызначыць савет фонду, у які ўвайшлі вядомыя ў краіне людзі — музыканты, кампазітары, артысты, пісьменнікі, мастакі, рэктары спецыяльных ВНУ і работнікі бібліятэк. Узначаліў савет рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча, народны артыст і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар Міхаіл Казінец.**

**У кампетэнцыі савета фонду і выдзяленне грантаў на ажыццяўленне творчай дзейнасці, арганізацыю стажыровак творчых работнікаў, правядзенне фестываляў, выстаў, конкурсаў, сімпозіумаў. Акрамя таго, будзе аказваецца разавая матэрыяльная дапамога дзеячам культуры і мастацтва.**

*ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ*

# САЛЬДА АДМОЎНАЕ

**Па даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, аб'ём знешняга гандлю рэспублікі за студзень—люты 1998 года склаў 2 426,6 мільёна долараў ЗША — на 7,3 працэнта больш, чым за аналагічны леташні перыяд. Пры гэтым экспарт вырас на 4,4 працэнта і дасягнуў 1 023,1 мільёна долараў, імпарт — на 9,5 працэнта (1 403,5 мільёна долараў). Сальда знешнегандлёвага абароту склалася адмоўнае ў памеры 380,4 мільёна долараў ЗША.**

*РАЯЦЦА ЭКОЛАГІ*

# «БЕЛАРУСЬ — ЧЫСТАЯ ЗЯМЛЯ»

Тэма прэс-канферэнцыі, што прайшла ў красавіку, сабрала самых розных спецыялістаў у галіне экалогіі. На іх думку, акцыя "Беларусь — чыстая зямля" магла б стаць для краіны аб'ядноўваючай ідэяй, з якой яна ўвайшла б у трэцяе тысячагоддзе.

Шэсць гадоў назад, калі знікла пагроза чарговай сусветнай вайны, сусветная супольнасць стала звяртаць павышаную ўвагу на праблемы экалогіі. Тады ж з'явіліся новыя задачы і новыя эканамічныя магчымасці, і пытанне аховы навакольнага асяроддзя стала на парадак дня будучага тысячагоддзя. Таму яшчэ ў 1992 годзе была прынята міжнародная мэтавая праграма "Стратэгія на наступнае тысячагоддзе".

Міжнароднымі экспертамі падрыхтавана некалькі даследаванняў экалагічнай сітуацыі ў Беларусі. На пасяджэнні Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця, што прайшло летась у Парыжы, меры, якія прымаюцца дзяржавай па стабілізацыі экалагічнага становішча, былі ацэнены вельмі высока.

Сёння ва ўсіх гарадах Беларусі ёсць ачысныя збудаванні, іншымі словамі, на 99 працэнтаў сцёкі, якія скідваюцца з тэрыторый гарадоў і населеных пунктаў, ачышчаюцца. Такіх паказчыкаў няма ні ў адной краіне СНД, у Расіі гэтая лічба дасягае толькі 66 працэнтаў. Калі ацэньваць колькасць шкодных выкідаў, то ў параўнанні з 1991—1992 гадамі, калі эканоміка рэспублікі працавала нармальна, колькасць трапляючых у паветра шкодных рэчываў упала ў тры разы, выкіды аўтатранспарту за гэты ж перыяд знізіліся на 30 працэнтаў, скіды сцёкавых вод зменшыліся таксама на 30 працэнтаў. Па ініцыятыве Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі распрацаваны і ўнесены ва ўрад праект Закона "Аб забеспячэнні насельніцтва чыстай вадой". На сёння гэты праект разгледжаны ў Савеце Міністраў і ў гэтым годзе будзе ўнесены на абмеркаванне ў парламент. Акрамя таго, у нас распрацавана праграма першачарговых мер па забеспячэнню насельніцтва чыстай вадой, дзе прадугледжаны шэраг канкрэтных мер па развіцці і выкарыстанні артэзіянскіх вод для забеспячэння чыстай вадой гарадоў, гарадскіх пасёлкаў і сельскіх населеных пунктаў. Яшчэ адна праблема экалогіі нашых гарадоў — захаванне цвёрдых бытавых адходаў. Ужо два гады ў Лідзе праводзіцца эксперымент па раздзельнаму збору цвёрдых бытавых адходаў з выкарыстаннем сучаснага нямецкага абсталявання.

Мяркуецца распаўсюдзіць гэты метад на іншыя рэгіёны. Вострая таксама і праблема будаўніцтва палігонаў для захавання цвёрдых бытавых адходаў і заводаў па іх апрацоўцы. Сёння па рэспубліцы ў год збіраецца каля 10 мільёнаў кубічных метраў цвёрдых бытавых адходаў, і толькі 4 працэнты ад агульнай колькасці апрацоўваецца на Мінскім смеццеперапрацоўчым заводзе. Між тым, у Беларусі каля 700 гектараў зямель занята пад складзіраванне цвёрдых бытавых адходаў. Цяпер плануецца будаўніцтва новых заводаў у Барысаве і Гомелі, аналагічныя заводы праектуюцца ў Віцебску і Гродне. Аднак высокі кошт такога роду прадпрыемстваў (толькі на будаўніцтва Барысаўскага завода на гэты год выдзелена 60 мільярдаў рублёў) значна тармозіць тэрміны іх уводу.

Абмеркаванне экалагічных пытанняў немагчымае без размовы аб праблемах тэрыторый, забруджаных у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

На чарнобыльскую праграму ў гэтым годзе выдзелена больш за 10 трыльёнаў беларускіх рублёў, што складае больш за 9 працэнтаў рэспубліканскага бюджэту. Палова гэтай сумы пойдзе на сацыяльныя льготы і выплаты, 3,8 трыльёна — на будаўніцтва тых ці іншых аб'ектаў жылля для перасяленцаў і іншыя патрэбы капітальнага будаўніцтва. 30 працэнтаў ад гэтай сумы накіроўваецца на стварэнне прымальных умоў жыцця на забруджаных тэрыторыях. У першую чаргу, гэта газіфікацыя забруджаных раёнаў, што з'яўляецца, бадай, асноўнай праблемай для забруджаных тэрыторый. Другая праблема — рэалізацыя праграмы забеспячэння насельніцтва гэтых мясцін чыстай вадой. Практычна ва ўсіх раёнах у апошнія гады створаны станцыі абезжалезівання вады, вядзецца вялікае будаўніцтва па цэнтралізаванаму водазабеспячэнню буйных населеных пунктаў. Не спыняюцца і дэзактывацыйныя работы, якія ў першую чаргу накіраваны на ачыстку дзіцячых садоў і школ, на што кожны год выдаткоўваецца каля 40 мільярдаў беларускіх рублёў.

Прыводзяцца ў парадак адселеныя тэрыторыі. 496 населеных пунктаў поўнасцю адселена, 170 вёсак пахавана. Для завяршэння ўсёй праграмы трэба пяць гадоў і вялікая сума грошай, якую сёння ўзяць няма адкуль.

ААН прыняла рашэнне аб падрыхтоўцы новага міжнароднага дакумента, які будзе называцца "Канвенцыя аб удзеле грамадскасці ў прыняцці экалагічных рашэнняў". Канвенцыя рыхтуецца прадстаўнікамі дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый, а таксама Еўрапейскай эканамічнай камісіяй. Яна прадугледжвае тры асноўныя моманты, якія заклікаюць актывізаваць удзел грамадскасці ў пытаннях аховы навакольнага асяроддзя. Па-першае, ва ўсіх дзяржавах, што далучыліся да канвенцыі, павінен быць гарантаваны доступ насельніцтва да экалагічнай інфармацыі. Другі напрамак будучай канвенцыі прадугледжвае абавязковы ўдзел насельніцтва ў экспертызе тых праектаў, якія рэалізуюцца на іх тэрыторыі. Трэці момант прадугледжвае свабодны доступ да працэдуры суда, іншымі словамі, любы грамадзянін павінен мець права звярнуцца ў суд па пытанні, звязаным з размяшчэннем таго ці іншага аб'екта ці яго ўздзеяння на навакольнае асяроддзе.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*ТЫМ, ХТО ЗБІРАЕЦЦА Ў ПАДАРОЖЖА*

# АДЗІНЫ ТУРЫСТЫЧНЫ ВАЎЧАР

З 1 красавіка ў Беларусі ўведзены турыстычны ваўчар адзінага ўзору, які будзе выкарыстоўвацца як пры прыёме замежных турыстаў, так і пры адпраўцы беларускіх турыстаў за мяжу.

Як было адзначана на прэс-канферэнцыі, што прайшла з гэтай нагоды, турызм набывае ўсё большае значэнне ў эканоміцы нашай краіны, дапамагаючы развіваць такі важны напрамак, як сфера паслуг.

Методыка прымянення турысцкіх ваўчараў распрацавана Сусветнай турысцкай арганізацыяй і шырока ўкаранёна ў практыку ў многіх краінах. Беларускі ваўчар, на думку яго распрацоўшчыкаў, будзе пасведчаннем турыста, якое сведчыць аб набыцці ім канкрэтных паслуг — права на адпачынак ці лячэнне ў пэўным месцы, транспартнае, экскурсійнае абслугоўванне, харчаванне і іншыя аплачаныя паслугі. Пры распрацоўцы беларускага ваўчара Міністэрству спорту і турызму пэўную дапамогу аказала Сусветная турысцкая арганізацыя, у якую Беларусь пакуль яшчэ не прынята. У мінулым годзе прыкладна 3,5 мільёна чалавек перасяклі мяжу нашай краіны па розных ваўчарах. Кошт кожнага ў сярэднім складаў 20 тысяч беларускіх рублёў. Практычна ўсе гэтыя грошы прайшлі міма дзяржаўнай кішэні, што, відаць, і стала асноўнай прычынай, па якой дзяржава вырашыла ўпарадкаваць даны від фінансавай дзейнасці. Зрэшты, прычын пераходу на ваўчарную сістэму некалькі, у прыватнасці, ваўчар з'яўляецца дакументам першаснага статыстычнага ўліку, які дапаможа скласці дакладную карціну ўсіх турысцкіх патокаў — грамадзян, якія прыязджаюць у Беларусь, якія выязджаюць адсюль у розныя краіны свету, а таксама, што немалаважна, паток тых, хто перасякае Беларусь транзітам.

Аналіз шматлікіх скаргаў на якасць абслугоўвання, што паступаюць у Міністэрства спорту і турызму, а таксама матэрыялаў з падатковых інспекцый паказаў, што шэраг турысцкіх прадпрыемстваў з мэтай утойвання выручкі і ўхілення ад уплаты падаткаў не поўнасцю адлюстроўваюць у бухгалтарскіх дакументах аб'ёмы прадастаўленых паслуг. Нярэдкія выпадкі, калі з мэтай ухілення ад уплаты падаткаў турыстам прапаноўваюць разлічыцца з фірмай наяўнай валютай непасрэдна на месцы размяшчэння.

Акрамя таго, сёння ў Беларусі практычна кожны суб'ект гаспадарання ў турыстычнай сферы выкарыстоўвае ў сваёй дзейнасці розныя бланкі турысцкіх ваўчараў адвольнай формы. Сустракаюцца сітуацыі, калі ў іх адсутнічае неабходная інфармацыя аб абавязацельствах фірмы перад кліентам, а таксама пераліку і кошце прадастаўляемых паслуг. У новым ваўчары будзе канкрэтна ўказана, у якой гасцініцы будзе пражываць турыст, колькі дзён, якая катэгорыя нумара будзе яму прадастаўлена, харчаванне, транспарт — словам, усе паслугі, якія ён набывае, і сума, якую ён за іх заплаціў.

Немалаважным з'яўляецца і пытанне адказнасці за якасць прадукцыі, якая прадстаўляецца на рынак турысцкіх паслуг і іх кантроль. Ваўчар, па задуме яго стваральнікаў, дазволіць аб'ектыўна прасачыць, якія паслугі набывае кліент той ці іншай турысцкай фірмы, якая іх якасць і кошт, а галоўнае, што ён рэальна атрымлівае. Ваўчар адзінага ўзору дасць таксама магчымасць знайсці фірму, якая павінна забяспечыць вяртанне на радзіму чалавека, які адстаў ад турыстычнай групы альбо быў "забыты" за мяжой па той ці іншай прычыне. Толькі ў мінулым годзе было зафіксавана 1 833 такія выпадкі, у 1 500 з іх грамадзяне прыехалі за рубеж па ваўчарах, за якія турыстычныя фірмы, што выдалі іх, не збіраліся несці ніякай адказнасці. На вяртанне гэтых грамадзян у мінулым годзе было затрачана каля 40 тысяч долараў. Летась беларускімі замежнымі ўстановамі ў 6 223 выпадках была аказана прававая дапамога нашым грамадзянам за рубяжом. На канец года 881 беларускі грамадзянін знаходзіўся ў замежных следчых ізалятарах і турмах.

Нярэдкія выпадкі смерці беларускіх грамадзян, якія апынуліся за мяжой. Транспарціроўка труны ў Беларусь толькі з блізкай Польшчы абыходзіцца ў 4—5 тысяч долараў, калі ж смерць адбылася ў больш аддаленай краіне, расходы намнога ўзрастаюць. Новы ваўчар дае гарантыю таго, што фірма, якая адпраўляе турыста за мяжу, у абавязковым парадку яго страхуе, што значна аблегчыць лёс сваякоў у выпадку трагедыі.

Новыя беларускія ваўчары на ўезд і выезд турыстаў будуць тыповымі, на бланках адзінага ўзору, выробленых на паперы, якая самакапіруецца, друкарскім спосабам з прастаўленымі серыяй і нумарам і будуць мець 16 ступеняў абароны. Ваўчар светла-карычневага колеру прызначаны для прыёму турыстаў і будзе складацца з арыгінала, прызначанага для кліента, і трох копій для арганізацый, якія накіроўваюць і прымаюць, а таксама консульскай установы Рэспублікі Беларусь. Ваўчар, прызначаны для адпраўкі турыстаў за рубеж, — сіняга колеру і складаецца з арыгінала, які выдаецца кліенту, і дзвюх копій для арганізацый, што накіроўваюць і прымаюць. Нягледзячы на тое, што новыя ваўчары адзінага ўзору ўводзяцца ў абарачэнне з 1 красавіка, Міністэрствам спорту і турызму прынята рашэнне, каб пазбегнуць магчымых непаразуменняў, прадоўжыць да 1 чэрвеня 1998 года выкарыстанне ваўчараў, выробленых суб'ектамі гаспадарання самастойна.

Ваўчар будзе выкарыстоўвацца пры разліках з грамадзянамі і турысцка-экскурсійнымі арганізацыямі як бланк строгай справаздачнасці. Міністэрства спорту і турызму, якое з'яўляецца ініцыятарам увядзення адзінага турыстычнага ваўчара, мяркуе, што ён дазволіць турыстам пазбегнуць падманутых чаканняў і расчараванняў у час падарожжаў.

**Вера АНТОНАВА.**

# АБАРОНА ПАВІННА БЫЦЬ ГАРАНТАВАНА КОЖНАМУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

новы працоўнай сілы: каля 80 працэнтаў вакансій — рабочыя месцы, у той час як 40 працэнтаў незанятых — спецыялісты з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Кан'юнктура рынку няроўная і ў тэрытарыяльным плане.

За апошні час павялічылася і сярэдняя працягласць беспрацоўя. Увогуле на 1 сакавіка ўзровень беспрацоўя ў Беларусі склаў 2,7 працэнта да колькасці працаздольнага насельніцтва.

Што тычыцца вакансій, то 35,5 тысячы чалавек могуць уладкавацца на працу ўжо сёння. Гэты паказчык амаль удвая перавышае той, што быў за адпаведны перыяд у 1997 годзе. Па-ранейшаму лягчэй знайсці працу ў Мінску, дзе паказчык беспрацоўя зніжаны да 1,1 працэнта. А вось у Віцебскай і Гродзенскай абласцях на адну вакансію прыпадае па шэсць чалавек.

*— А як справы ў тых, хто на працоўнае месца ўжо не прэтэндуе, — пенсіянераў, інвалідаў?*

— На жаль, як вядома, таксама не лепшым чынам. Колькасць пенсіянераў у краіне расце, зараз іх ужо два з паловай мільёны. Дарэчы, мы маем тысячу чалавек доўгажыхароў — гэта асобы, якім за 100 гадоў.

Праблемы пажылых людзей стаяць даволі востра: адпаведна міжнародным стандартам, грамадзянскае пенсійнае забеспячэнне ў Беларусі наблізілася да рысы беднасці — 1 долар ЗША на чалавека ў дзень.

Вялікая колькасць інвалідаў: 4 працэнты насельніцтва — інваліды. Хаця трэба адзначыць: летась намецілася тэндэнцыя да зніжэння гэтага паказчыка.

Не можа задаволіць і сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў: толькі дзесяць працэнтаў з іх маюць працу.

*— Хто павінен у першую чаргу займацца згаданымі праблемамі?*

— Канешне, дзяржава. У нас прыняты шэраг законаў, якія гарантуюць сацыяльную абарону ўсіх пластоў насельніцтва. І няхай яна не такая магутная, як бы таго хацелася, усё ж перавышае тую, што сёння існуе на іншых тэрыторыях постсавецкай прасторы. Непасрэдным абслугоўваннем састарэлых грамадзян у нас занята 23,2 тысячы сацыяльных работнікаў. Толькі ў сябе дома дапамогу атрымліваюць 78 тысяч чалавек.

Па ініцыятыве Мінскага гарвыканкома ўпершыню ў краіне ў сталіцы адкрыўся пункт рэгістрацыі і ўліку асоб без пэўнага месца жыхарства — так званых бамжоў. У ходзе гэтай акцыі гарадскія ўлады плануюць выявіць хаця б прыблізную колькасць такіх асоб, якім аднаразова будзе аказана і неабходная дапамога. Рэгістрацыя праводзіцца добраахвотна. Тыя, хто пройдзе яе, змогуць аднавіць страчаныя дакументы і атрымаць спецыяльную картку з фатаграфіяй, якая прыраўноўваецца да мінскай прапіскі і дасць магчымасць чалавеку атрымаць працу ці пенсію.

*— Антон Баляслававіч, якія яшчэ істотныя сацыяльныя праблемы хвалююць сёння беларускае грамадства?*

— Я б вылучыў ліквідацыю наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Як вядома, ад яе Беларусь пацярпела больш за астатніх. Страты ў першую чаргу звязаны са станам здароўя людзей ад уздзеяння радыеактыўнага выпраменьвання і "фактара радыефобіі". Акрамя таго мы згубілі шмат прыродных рэсурсаў — зямлю, лясы. Велізарныя грошы дзяржава выдаткоўвае на перасяленне людзей з забруджаных радыяцыяй тэрыторый на чыстыя. Значныя сродкі выдзяляюцца на кантроль за акаляючай прасторай, якасцю прадуктаў харчавання, павышаную сацыяльную абарону той часткі насельніцтва, што пацярпела ад нацыянальнай трагедыі. Але пакуль сіл на ўсё не хапае. На жаль, і па сёння на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях, дзе доза па цэзію перавышае 37 кБк/кв. м., пражывае 1 мільён 840 тысяч чалавек, з іх амаль паўмільёна — дзеці і падлеткі да 17 гадоў. Павінен канстатаваць, што скарачаюцца асігнаванні на рэалізацыю праграм "Ахова мацярынства і дзяцінства", "Нацыянальную генетычную праграму", не надаецца адпаведнай увагі развіццю фармакалагічнай прамысловасці. Такое становішча значна ўскладняе вырашэнне і без таго няпростых задач.

*— Як адбіваюцца сённяшнія перыпетыі грамадскага развіцця на працэсе выхавання і адукацыі моладзі?*

— У краіне кожны пяты жыхар тым ці іншым шляхам мае дачыненне да сферы адукацыі. Сёння на Беларусі 4 820 дзяржаўных агульнаадукацыйных школ, 4 511 дзіцячых садоў, 259 прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, 42 вышэйшыя навучальныя ўстановы. Дарэчы, працуюць і 42 недзяржаўныя навучальныя ўстановы, якія таксама ўваходзяць у склад нацыянальнай сістэмы адукацыі. Маем мы 27 дзіцячых дамоў, шэраг школ-інтэрнатаў, 22 дзіцячыя дамы сямейнага тыпу.

Аналізуючы сістэму агульнай адукацыі, трэба прызнаць: побач з прагрэсам, які назіраецца ў рэформе школы, узнікаюць і пэўныя праблемы: нізкі ўзровень ведаў навучэнцаў, існуе значнае адрозненне ў падрыхтаванасці выпускнікоў элітарных, гарадскіх і сельскіх школ, што ўжо на пачатку жыццёвага шляху ставіць маладых людзей у няроўныя ўмовы, незалежна ад іх уласных здольнасцяў і інтэлектуальных магчымасцяў. Ёсць праблема з забеспячэннем кадрамі сельскіх школ, падручнікамі і разнастайнымі дапаможнікамі. Недастаткова ўвагі надаецца маральнаму выхаванню школьнікаў, а гэта непазбежна вядзе да росту злачыннасці сярод падлеткаў і непаўналетніх.

Калі ў 1991 годзе цяжкія злачынствы склалі 19,2 працэнта ад агульнай колькасці ўчыненых падлеткамі злачынстваў, то ў 1997 — ужо 53,2 працэнта. Сярод такіх правапарушальнікаў значна ўзрасла колькасць вучняў школ: у 1991 годзе — 23,7 працэнта, у 1997 — 37,5 працэнта.

Рэзкімі тэмпамі ўзрастае працэс алкагалізацыі падлеткавага асяроддзя. Узроставы парог парушальнікаў антыалкагольнага заканадаўства апусціўся ніжэй 12 гадоў. Прычыны гэтага ў тым, што паўсяжнай з'явай стала бытавое п'янства. Бацькі прыахвочваюць дзяцей не толькі да ўжывання спіртных напояў, але і ўцягваюць у іншыя крымінагенныя дзеянні — жабрацтва, разбоі, крадзяжы.

Вось такія некаторыя праблемы ў сацыяльнай сферы Беларусі. Для іх вырашэння неабходна ў першую чаргу ўзмацніць ролю дзяржавы ў распрацоўцы сістэмы сацыяльнай абароны чалавека — заканадаўчай, фінансавай, кіраўніцкай і кантралюючай. А ўвогуле работы хапае ўсім нам.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

АДКРЫЛАСЯ БІБЛІЯТЭКА



**Дзіцячая бібліятэка імя Уладзіміра Караткевіча з'явілася ў Віцебску. Яна будзе абслугоўваць каля 6 тысяч чытачоў густанаселенага раёна. Ва ўтульных памяшканнях размясціліся абанементная і чытальная залы, а таксама спецыяльны пакой казак.**

**НА ЗДЫМКУ: у чытальнай зале бібліятэкі.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# ЗБЕРАГЧЫ ПАМЯЦЬ ГАРАДОЎ

Забудова Пінска, Брэста, Кобрына, самых старажытных гарадоў краю, нярэдка вядзецца на шкоду архітэктурным і археалагічным помнікам мінуўшчыны. Да такой высновы прыйшоў абласны каардынацыйны савет па ахове гістарычнай спадчыны на чарговым сваім пасяджэнні з удзелам старшыняў выканкомаў, загадчыкаў аддзелаў культуры, галоўных архітэктараў, дырэктараў музеяў гарадоў і раёнаў вобласці. На пасяджэнні, якое, дарэчы, адбылося ў 900-гадовым Пінску, былі абмеркаваны шляхі паляпшэння рэгенерацыі гістарычных цэнтраў, а таксама адобраны праграма археалагічных даследаванняў на Брэстчыне, падрыхтаваная доктарам гістарычных навук П. Лысенкам, і план выпуску краязнаўчай літаратуры, з якім пазнаёміў начальнік абласнога ўпраўлення па друку Г. Тамашэвіч. Кіраўнік каардынацыйнага савета, старшыня Брэсцкага аблвыканкома У. Заламай уручыў узнагароды актывістам аховы матэрыяльнай і духоўнай спадчыны роднага краю.

## НА ШЛЯХУ ДА ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

# МАРШ ДА БЕЛАРУСІ

Беларусь не разбэшчана разнастайным вайсковым друкам. Тых часопісаў і газет, што былі ў XX стагоддзі ў залежнай нявольнай краіне, безумоўна недастаткова для паспяховага развіцця беларускай вайсковай навукі, хаця пэўны ўплыў у большай ці меншай ступені яны аказвалі. Але гэты вядомы друк можна пералічыць па пальцах. Газеты: "Красноармеец" (20.III.1919—15.V.1921 гады, заснавана Палітаддзелам Рэўваенсавета Заходняй арміі); "Красноармейская правда" (22.VI.1921—1947 гады), "Во славу Родины" (з 1947 года, орган Беларускай ваеннай акругі, у 1934—1935 гадах выдавалася нават па-беларуску). Часопісы: "Напагатове" (1932—1933 гады, орган Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР); "Беларус на варце" (лістапад 1943 — чэрвень 1944 года, орган паліцыі, БКА на акупіраванай нямецкімі войскамі Беларусі); "Зважай" (з 1974 года, часопіс беларускіх ветэранаў на чужыне); сучасны часопіс Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь "Армия" (з 1996 года) і, нарэшце, навуковы зборнік Аддзела вайсковай гісторыі Беларусі Інстытута гісторыі НАН "Старонкі вайсковай гісторыі Беларусі" (пачаў выходзіць з 1993 года).

Аднак з нядаўняга часу стала вядома, што гэта далёка не ўсё, вышэйзгаданы спіс яшчэ мажліва працягваць, у прыватнасці, дадаць да яго часопісы "Вайсковы", "Сьветазар" і газеты "Варта Бацькаўшчыны", "Сьцянная беларуская газэта", што выходзілі ў беларускіх часцях Літоўскага войска ў 1919—1922 гадах.

Напачатку прыгадаем асноўныя эпізоды гісторыі гэтых фармацый. Як вядома, у апошнія 200 гадоў так склаўся гістарычны лёс беларускага жаўнера, што ён у большасці выпадкаў ваяваў за інтарэсы чужых дзяржаў і вельмі зрэдку за свае ўласныя, беларускія. Да гэтых выпадкаў адносіцца і баявая дзейнасць беларускіх аддзелаў у Літве.

Згодна з дамовай беларусаў з літоўцамі, у лістападзе 1918 года ў Вільні пачалося фарміраванне беларускіх часцей пры літоўскім войску. Адразу былі закладзены штабы 1-га і 2-га беларускіх палкоў. У сувязі з выездам з Вільні 1-шы полк працягваў фарміраванне ў Гародні і ў лютым 1919 года складаўся з пяхотнага палка, коннага швадрона і батальёна камендатуры. Штаб 2-га палка быў расфарміраваны літоўскім Міністэрствам абароны краю (МАК) яшчэ ў студзені. У траўні 1919 года палякі, што занялі Гародню, пачалі разбройваць нешматлікія беларускія падраздзяленні, частка з апошніх, не жадаючы супрацоўніцтва, уцякла ў Коўна, дзе ў чэрвені з гэтых і іншых беларускіх вайскоўцаў былі ўтвораны 1-я і 2-я Асобныя беларускія роты (АБР). 1-я АБР ужо 20 чэрвеня была накіравана на фронт супраць бальшавіцкіх і польскіх войскаў.

10 кастрычніка ў Коўне адбылася літоўска-беларуская нарада аб пашырэнні беларускіх фармацый у Літве. У выніку, 15 кастрычніка прыбыла на фронт 2-я АБР, а 17 лістапада, згодна з загадам па літоўскаму войску № 190 (ад 17.XI.1919 года), абедзве роты былі аб'яднаны ў Беларускі батальён (ББ). Аднак у хуткім часе ББ трапіў пад перафарміраванне ў сувязі з дэмабілізацыяй падафіцэраў з былой г. зв. "Маскоўскай арміі" і са звальненнем з батальёна паводле загаду ўсіх грамадзян Літвы, што значна паменшыла ягоныя шэрагі. У выніку загадам па літоўскаму войску № 263 (ад 1.IV.1920 года) ББ быў перафарміраваны ў Беларускую асобную роту (БАР).

12 ліпеня 1920 года была заключана дамова паміж Савецкай Расіяй і Літвой, згодна з якой да апошняй адыходзілі гарады Вільня, Гародня, Ліда і іншыя. І ўжо 27 верасня ў Вільні быў закладзены Беларускі асобны батальён (БАБ), але з заняццем горада войскамі генерала Жэлігоўскага фарміраванне БАБ было перанесена ў Коўна. БАР заставалася на фронце і толькі ў сярэдзіне снежня перадыслацыравалася ў Коўна, дзе злучылася з батальёнам. У гэты самы час распачыналася змаганне паміж Літвой і Польшчай за Вільню. Літоўцы вырашылі выкарыстаць і беларускую зацікаўленасць, і БАБ стаў ідэалагічным і падрыхтоўчым цэнтрам антыпольскага партызанскага руху на акупіраванай Беларусі. Гэта працягвалася да вясны 1923 года, у якім змянілася міжнародная сітуацыя, вядучымі дзяржавамі была прызнана ўсходняя мяжа Польшчы разам з тэрыторыяй Сярэдняй Літвы. У сувязі з гэтым у літоўскага ўрада знікла зацікаўленасць да антыпольскай дзейнасці беларусаў, яны ўжо былі непатрэбныя, у тым ліку і БАБ. 25 красавіка батальён быў перафарміраваны ў Асобную беларускую роту, якая ў гэтым жа годзе была расфарміравана. Беларускія вайсковыя аддзелы ў Літве спынілі сваё існаванне.

Вось на гэтым фоне баёў і шматлікіх рэарганізацый афіцэры беларускіх фармацый знаходзілі час і сродкі для правядзення нацыянальна-культурнай працы сярод сваіх падначаленых.

Пасля сфарміравання ББ амаль тры месяцы, са снежня 1919 па сакавік 1920 года, для яго быў адносна спакойны перыяд. У гэты час, як сведчыць ягоны афіцэр маёр А. Ружанцоў: "Трэба было звярнуць увагу на выхаваньне ў жаўнерах грамадзянскай сьвядомасьці, на ўздым сярод іх культуры і прасьветы". Як і ва ўсіх літоўскіх часцях, пачынаецца актыўная праца ў гэтым кірунку. Пры штабе ББ у гэты час выдавалася газета для беларускіх вайскоўцаў "Варта Бацькаўшчыны". Яна ўяўляла з сябе напісанае ад рукі і памножанае на шапіраграфе ілюстраванае выданне на беларускай і расійскай мовах. Змяшчала матэрыялы беларускага нацыянальна-культурнага вайсковага характару, прапагандавала сумесную беларуска-літоўскую дзяржаву. Пэўны тэрмін выходзіла таксама і рукапісная "Сьцянная беларуская газэта" падобнага зместу. Рэдактарам іх быў камандзір 1-й роты маёр А. Ружанцоў, дапамагаў яму падпаручнік Маёраў. Была закладзена ў батальёне і вайскова-гістарычная камісія дзеля збору і апрацавання ўсіх матэрыялаў аб удзеле беларусаў "у справе будаўніцтва Бацькаўшчыны мячом на палёх бойкаў". У дадатак да газет было выдадзена некалькі ўлётак і брашур у асноўным вайскова-гістарычнага зместу. Вялікую падтрымку батальёну аказваў у гэтай галіне міністр беларускіх спраў у Літве Я. Варонка. Трэба адзначыць, што афіцэры працавалі так актыўна, што пракурор Ковенскага вайсковага суда палкоўнік Энглер увосень 1920 года абвінавачіў Ружанцова ў агітацыі супраць камандуючага Літоўскім войскам, вайсковага міністра і наогул Літоўскай рэспублікі. Але ніякага пакарання не паследавала. Маёр толькі быў пераведзены на службу ў Ковенскую камендатуру ў снежні 1920 года.

Крыху больш чым праз год, 1 траўня 1921 года, у беларускіх жаўнераў зноў з'явіўся свой часопіс "Вайсковы". Дакладна яшчэ не вызначана, як доўга выходзіла гэта выданне, але па ўскосных даных можна меркаваць, што яно існавала да студзеня 1922 года, хаця, магчыма, і яшчэ некалькі месяцаў. "Вайсковы" быў часопісам папулярнага, асветніцкага характару, выходзіў два разы на месяц аб'ёмам 8—20 старонак. Рэдактарам яго быў начальнік вайсковай бібліятэкі пры штабе літоўскага войска маёр Ружанцоў. Разам з ім працавалі яшчэ 2—3 чалавекі, у тым ліку Я. Кашуба і мастак П. Дзехцяроў. Выданне фінансавалася літаратурным аддзелам МАК. Галоўная задача "Вайсковага" была вызначана наступным чынам: "Вайсковы" вас навучыць змагаць ворага зброяй і пасьля жыць у шчаслівай вольнай і незалежнай Літве!" Першапачаткова часопіс выходзіў у беларускай лацінцы, але гэта выклікала нязручнасці для чытачоў, і з № 5 (ліпень) ён перайшоў на кірыліцу. Двухтыднёвік быў вельмі разнастайным па характару сваіх матэрыялаў. Бачна, што рэдакцыя ставіла перад сабой шырокія задачы. Часопіс быў рубрыкаваны, і даволі часта артыкулы мелі працяг. Сярод асноўных рубрык можна адзначыць "Жаўнерскія гутаркі", дзе абмяркоўваліся надзённыя пытанні жаўнера, сэнс статутаў, баявое шкаленне; "Беларуская хроніка" аб падзеях на Беларусі; гістарычны агляд "Беларускія аддзелы літоўскага войска"; "Загады па войску"; "Вайсковы слоўнік" (літоўска-маскоўска-беларускі). Рэгулярна можна было азнаёміцца з "Кнігапісам" і літаратурнымі аглядамі, напрыклад, "Сусветная вайна ў беларускай мастацкай літаратуры" (№ 4) альбо артыкул Ружанцова "Беларуская вайсковая літаратура" (№ 6) аб выданнях Беларускай вайсковай камісіі 1919—1921 гадоў, дзе ён, у прыватнасці, адзначыў: "...вартасць выданьняў БВК вялікая. 1) беларуская мова ўзбагацілася радам новых слоў, у большасці ўдатных і маючых поўнае права ўвайсці ў родную мову, 2) ворагам Беларушчыны бліскуча даведзена, што дзеля беларусаў не абавязкова вучыцца вайсковай справе ці па-польску, ці па-маскоўску, 3) нарэшце, залажаны моцны падмурак у справу стварэння беларускай вайсковай літаратуры.

І за ўсё гэта беларусы ўсіх часцей разарванай мацнейшымі суседзямі Беларусі заўжды будуць удзячны БВК".

Вельмі часта друкаваліся матэрыялы па беларускай гісторыі, напрыклад, "Напалеон і Беларусь" (№ 3), замежныя вайсковыя навіны, вершы як вядомых беларускіх паэтаў, так і рэдактара, які выступаў пад літаратурным псеўданімам Алесь Смаленец, іншых ягоных саслужыўцаў. Рэдактар-паэт руплва адбіраў вершы, і таму на старонках "Вайсковага" з'яўляліся творы, прасякнутыя адчуваннямі мужнасці і патрыятызму:

> **"...Ачніся ж, цар-волат**
> **пакутнай зямлі,**
> **Пакажы на ўвесь сьвет сваю сілу;**
> **За чужых беларусы пад кулі ішлі,**
> **За чужых сабе рылі магілы!..**
>
> ("Вайсковы", № 5).

Да паэтызаваных твораў можна аднесці і "Малітву жаўнера", якую з Г. Сянкевіча пераклаў А. Смаленец. Там былі наступныя словы, якія штодня натхнялі беларускіх жаўнераў літоўскага войска на змаганне: "...Бо я жаўнер і служэбнік Твой; о Пане, і жадаю вечна служыць Табе і Матцы маёй Бацькаўшчыне..." ("Вайсковы", № 3).

Вядома, які ж жаўнер без жартаў. Таму гэты жанр, як, дарэчы, і разнастайныя малюнкі і карыкатуры, займаў належнае месца ў выданні, а ў № 10 гумару было адведзена ажно дзве старонкі: кідалі кпіны, у асноўным, у бок Польшчы.

Натуральна, "Вайсковы" не абыходзіўся без публікацый абвестак, напрыклад, аб "Беларускім клубе ў Коўне" або "Курсах беларусазнаўства".

Працуючы ў галіне беларускага нацыянальнага адраджэння, адраджэння беларускай вайсковасці, рэдакцыя выдатна разумела, у якім становішчы яно знаходзіцца. Ружанцоў з сумам пісаў у пятым нумары часопіса: "Сучасныя абставіны такія, што ва ўсім сьвеце толькі на Літве захавалася жменя беларусаў-ваякаў, што маюць яшчэ права і гонар называццца беларусамі, што маюць яшчэ шчасьце служыць у сваіх нацыянальных частках, са сваёй камандай, мовай, звычаямі, сярод сваіх жа сяброў беларусаў.

На Беларусі Заходняй беларус мусіць перарабіцца падчас службы на паляка, бо тамака нацыянальных частак пакуль няма, як няма БВК, што стаяла на чале беларускіх фарміраваньняў.

У Савецкай Беларусі і ў да гэтага часу не прылучаных да яе спрадвеку Беларускіх землях Смаленскага, Віцебскага князёўстваў наш рэкрут, як і ў часы царызму, мусіць ехаць служыць у чырвоных часцях за Уралам ці на Каўказе".

Як ужо адзначалася, часопіс спыніў сваё існаванне ў 1922 годзе, і, пэўна, сярод галоўных прычын гэтага былі матэрыяльныя ўмовы, бо ўрадавага фінансавання нават на вельмі сціплае па паліграфічных якасцях выданне (памножаны на шапірографе рукапісны тэкст, шэрая папера) не хапала, і часам дапамога ішла ад саміх беларускіх вайскоўцаў. Так, у № 7 (жнівень) паведамлялася аб ахвяраваннях на "Вайсковы": "камандзір і кампаніі кпт. Благавешчэнскі даў 60 зал., невядомы — 2 мал. бут. чарніла і 240 арк. паперы".

Некалькі слоў яшчэ аб адным беларускім вайсковым выданні. На пачатку студзеня 1921 года ў БАБ была адроджана "дзеля культурна-асветніцкай працы" адмысловая камісія. З яе дапамогаю з 15 кастрычніка ў батальёне пачала выходзіць на кірыліцы двухтыднёвая газета "Сьветазар". Па некаторых даных, яе спачатку рэдагаваў капітан Я. Гайдукевіч, пазней старшы лейтэнант В. Разумовіч. Колькі выйшла нумароў газеты, якога яны былі зместу, адказаць на даны момант цяжка, але на прыкладзе першага нумара, які захаваўся ў Нацыянальным архіве Беларусі, можна зрабіць пэўныя высновы. Выданне было ілюстраваным, змяшчала матэрыялы па наступных рубрыках: "Навіны БАБ", "Гісторыя Беларусі", "Хроніка падзей на Беларусі і замежжы", друкаваліся фельетоны, вершы, часам былі перадрукі з "Вайсковага".

Такім чынам, да змагання за Бацькаўшчыну моцна прычыніліся і беларускія вайсковыя журналісты літоўскага войска. Можна лічыць, што наступныя словы з маршавай песні Беларускай асобнай роты, якую склаў маёр А. Ружанцоў, маглі б на поўнай падставе стаць іхнім дэвізам:

> **Марш, марш, жаўнеры,**
> **Марш да Беларусі,**
> **Бо наш мілы край радзімы**
> **Быць свабодным мусіць!**

**Віктар АСТРОГА,**
**навуковы супрацоўнік**
**Інстытута гісторыі НАН Беларусі.**

---

З ГІСТОРЫІ ДВУХ НАРОДАЎ

# ЛІТАРАТУРНЫ ПЛЁН МІНЧАН ВЕНГЕРАВЫХ

**Гісторыю рускай літаратуры на мяжы XIX—XX стагоддзяў нельга ўявіць без брата і сястры Венгеравых. Без гісторыка рускай літаратуры, бібліёграфа Сямёна Венгерава і крытыка, гісторыка заходнееўрапейскай літаратуры, перакладчыцы Зінаіды Венгеравай. Нарадзіліся яны ў розных куточках тагачаснай Расійскай імперыі. Сямён — у Лубнах Палтаўскай губерні ў 1855 годзе. Зінаіда — у Гельсінгфорсе ў 1867 годзе. Але дакладна вядома, што большая частка іх дзяцінства прайшла ў Мінску. Зінаіда нават скончыла Мінскую гімназію. Бацька будучых літаратараў, Афанасій Лявонцьевіч, узначальваў банк. А маці, Паўліна Юльеўна, — нямецкая пісьменніца. У 1908—1910 гадах у Варонежы выдадзены яе "Успаміны бабулі" (на нямецкай мове).**

Якія ж літаратурныя здабыткі здзейснены Венгеравымі і чаму іх месца ў гісторыі рускай літаратуры досыць прыкметнае? Спярша пра брата. У 1879 годзе Сямён Венгераў скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Некаторы час працаваў памочнікам прысяжнага паверанага. У 1880 годзе ў Юр'еўскім (зараз Пярнускім) універсітэце экстэрнам здаў экзамены за гісторыка-філалагічны факультэт. Быў пакінуты пры кафедры гісторыі рускай літаратуры Пецярбургскага універсітэта для падрыхтоўкі да прафесарскага звання. Але, не маючы дастатковых матэрыяльных сродкаў, вымушаны быў пакінуць універсітэт. З 1882 года служыў у праўленні Лібава-Роменскай чыгункі.

З 1890 года Венгераў цалкам прысвячае сябе гісторыка-літаратурнай дзейнасці, бібліяграфічным даследаванням, хаця першыя артыкулы, рэцэнзіі малады чалавек пачынае друкаваць яшчэ ў 1872 годзе. Сур'ёзнай заяўкай сталася серыя артыкулаў "Літаратурныя нарысы", якія прысвечаны бягучай рускай літаратуры, пісьменнікам так званага другога рада. Сямён Венгераў наўмысна закцэнтаваў увагу на літаратарах, чыя творчасць не заўсёды цікавіла крытыкаў. Каб скласці ўяўленне пра літаратурны працэс эпохі, неабходна агледзець усе абсягі, улічыць усе здабыткі. Сёння ў беларускім літаратуразнаўстве падобную працу ажыццявіў Адам Мальдзіс, склаўшы з паплечнікамі шасцітомны біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі". Ужо ў першай палове 80-х гадоў мінулага стагоддзя Венгераў распачынае падрыхтоўку "Крытыка-біяграфічнага слоўніка рускіх пісьменнікаў і вучоных. (Ад пачатку рускай адукаванасці да нашых дзён)" (т. 1—6, Санкт-Пецярбург). Выданне слоўніка не было закончана. Увайшлі артыкулы на "А", "Б", часткова на "В", а таксама асобныя артыкулы на іншыя літары. Сам Венгераў разглядаў слоўнік як падрыхтоўчы этап у стварэнні навуковай гісторыі рускай літаратуры. Пры складанні "Крытыка-біяграфічнага слоўніка..." даследчык кіраваўся патрабаваннем найбольшага насычэння. Улічваў пры гэтым крытычную ацэнку дзейнасці пісьменніка. Выкарыстоўваў велізарны бібліяграфічны матэрыял, звяртаўся да многіх архіўных і друкаваных крыніц, да пісьменніцкіх аўтабіяграфій. Сярод тых, хто дапамагаў Венгераву ў рабоце над слоўнікам, — вядомыя вучоныя, пісьменнікі. Некалькі артыкулаў напісаў Уладзімір Салаўёў. Артыкул пра Цімафея Бондарава напісаў Леў Талстой. Уражвае і яшчэ адна задума Сямёна Венгерава — 25-томнае бібліяграфічнае выданне "Рускія кнігі з біяграфічнымі данымі аб аўтарах і перакладчыках (1708—1893)". У 1895—1899 гадах пабачыла свет тры тамы. Субсідзіраваў выданне вядомы расійскі бібліяфіл Г. Юдзін, але, панёсшы страты, пасля выхаду 3-га тома адмовіўся працягваць фінансаванне 25-томніка. Венгераў не супыняецца.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# ПАТУШАНАЕ ЖЫЦЦЁ

Зрабілі так, каб у памяці нашчадкаў і следу не засталося ад творчых набыткаў нашага земляка. А ён быў асобай вельмі таленавітай, рэдкай, самабытнай. Раман Семашкевіч сваім талентам здзіўляў сучаснікаў, пра яго гаварылі як пра новага Маціса. Ён быў тым майстрам, які сваёй творчасцю апярэджваў час. Працы Р. Семашкевіча горача ўхвалялі самыя знакамітыя мастакі, дзеячы літаратуры і мастацтва: Я. Купала, Я. Колас, С. Герасімаў, В. Катаеў, А. Дайнека, К. Паўстоўскі і іншыя. Р. Семашкевіч быў з'яваю, самародкам у выяўленчым мастацтве.

Раман Семашкевіч нарадзіўся ў 1900 годзе непадалёку ад Маладзечна ў вёсцы Лебедзева ў надта вялікай сялянскай сям'і, у якой гадавалася і выхоўвалася ажно 16 дзяцей! Бацька яго рабіў садоўнікам у мясцовага пана. Прыгажосць прыроды, маляўнічыя краявіды з пакатымі ўзгоркамі Маладзечаншчыны, абсыпаныя ўлетку кветкамі, сады, што пеніліся квецценню вясною, цёмназялёныя лясы, якія з усіх бакоў абступалі Лебедзева, уражвалі і глыбока западалі ў сэрца хлопчыка, і ён, ахоплены радасным хваляваннем, спрабаваў прыгажосць прыроды перанесці на аркуш паперы ці кавалак кардону, каб захаваць гэтае хараство.

Фарбаў у хлопчыка не было. Маляваў сокам, выціснутым з кветак, вугалем і крэйдаю.

Захапленне мастацтвам прывяло здольнага хлопчыка ў Вільню. Тут ён пачаў вучыцца ў гімназіі і адначасова наведваць мастацкую студыю Браніслава Тарашкевіча, дзе браў урокі жывапісу. І склалася так, што аўтар першай "Беларускай граматыкі для школы" стаў для Рамана Семашкевіча і першым настаўнікам у мастацтве.

Каб лепш і глыбей спасцігнуць сакрэты мастацтва, ён у 1924 годзе паступае на скульптурнае аддзяленне Віцебскага мастацкага тэхнікума. Тут у той час вучыліся А. Волкаў, З. Азгур, А. Бембель, М. Бяльніцкі-Біруля, якія пазней сталі знакамітымі майстрамі жывапісу і скульптуры. А вучыцца майстэрству было ў каго: у Віцебску жылі і працавалі ў той час мастакі Пэн, Малевіч, Шагал.

Скончаны тэхнікум. Семашкевіч, як выдатнік, быў накіраваны на вучобу ў Маскву, ва Усерасійскі мастацка-тэхнічны інстытут на жывапісны факультэт.



Майстэрня Д. Кардоўскага, да якога трапіў у вучні Семашкевіч, была захавальніцай акадэмічных традыцый у мастацтве. Творчая атмасфера тут была вольная, раскаваная. Шмат спрачаліся аб мастацтве, аб разнастайнасці творчых пошукаў. Найбольш адзін аднаго крытыкавалі за схематызм і пераймальніцтва.

І заўсёды, калі студэнты выстаўлялі ў майстэрні для ўсеагульнага абмеркавання свае работы, усіх прыцягвалі да сябе вельмі шчырыя, жыццярадасныя пейзажы, партрэты, малюнкі Рамана Семашкевіча.

Вучыўся ён упарта і натхнёна. Часта галадаў, не было ў што апранууцца і абуцца. Лебедзева, яго родная вёска, у той час знаходзілася за мяжою, пад уладаю Польшчы, і на дапамогу бацькі малады мастак не спадзяваўся. І не чакаў яе, бо жыў за мяжою. Нельга было нават у час канікулаў дамоў з'ездзіць па харчы. Ён яшчэ з дзяцінства спазнаў, што такое голад. І таму тут, у Маскве, Раману не трэба было да яго прывыкаць. Ды ён і не вельмі клапаціўся пра свой побыт. Як успамінае Н. Васільева, Раман "заўсёды жыў, як нябесная птушка, не ведаючы, што будзе есці і піць, у што апранацца. Толькі адна была ў яго стыхія — мастацтва. Сваёй знешнасцю ён нагадваў рабочага. Быў атлетычнага складу, невысокага росту, маўклівы. Ягоная постаць выпраменьвала сілу. Русыя, злёгку кучаравыя валасы, крутыя дугі броваў, адкрыты лоб. Прыгожымі былі ў яго рукі — гнуткія, моцныя. Яны стваралі хараство і прыгажосць".

Мастак працаваў з раніцы да позняга вечара. Яму заўсёды не хапала часу. Спаў ён тры-чатыры гадзіны, астатнія — работа за мальбертам. Але не было чым і на чым пісаць, маляваць, рэзаць гравюру... Глухая і чорная галеча душыла мастака. Грошай не было не толькі на палатно і фарбу, але і на хлеб. І гэтае цяжкае становішча прымушала Семашкевіча маляваць на тым, што траплялa пад руку. У справу ішлі насоўкі, цырата з кухні, ручнікі і нават начныя кашулі.

Н. Васільева — Барысу Крэпаку, вядомаму беларускаму мастацтвазнаўцу: "Што і як ён пісаў! Пісаў шмат і хутка. Чым хутчэй пісаў, тым лепш у яго атрымлівалася. Ягоны жывапіс вызначаўся яркаю смеласцю ліній, дзіўнай каляровай насычанасцю. Ягоная палітра складалася з чыстых фарбаў, яны і сёння гараць у маіх вачах. А вывучэнне мастацтва скульптуры надало жывапісу Семашкевіча асаблівую важкасць, нязмушанасць, узмацніла яго гучанне, паглыбіла майстэрства. Семашкевіч усё рабіў сам: нацягваў палотны, грунтаваў, збіваў падрамнікі. Праз край лілася магутная сіла, якую адлусціў яму Бог. Бясконца маляваў мяне і ўсіх, хто трапляў на вочы. За паўгадзіны — партрэт. Часам па некалькі палотнаў у дзень. Закончыцца палатно — хапаўся за пяро і туш..."

У Семашкевіча былі і зайздроснікі, і сябры. Апошнія дапамагалі яму і ў творчасці, і ў побыце. Нават знакамітыя, якія адкрылі ў асобе мастака вялікі талент. Яму дапамагаў вядомы крытык і перакладчык Сяргей Ромаў. Ён вярнуўся з эміграцыі, правёў у Парыжы шмат гадоў, стаў тонкім знаўцам мастацтва, сустракаўся з Пікасо, Мацісам, Манэ. Менавіта ён адзін з першых заўважыў таленавітыя творы Семашкевіча на выставе і горача падтрымаў самабытнага мастака. А Уладзімір Татлін, знакаміты авангардыст, дапамог яму атрымаць майстэрню. Б. Рыбчанкаў, блізкі сябра Семашкевіча, надаваў вялікае значэнне творчасці мастака, яго таленту.

У 1932 годзе Р. Семашкевіч паехаў у творчую камандзіроўку. Шлях яго ляжаў у родную Беларусь, па якой ён увесь час сумаваў у Маскве. Ён арганізаваў свае выставы ў Петрыкаве, Мазыры, Мінску. Менавіта ў гэты час яго запрасілі ў госці спярша да Янкі Купалы, а потым да Якуба Коласа, з якімі мастак пасябраваў.

Раман Семашкевіч удзельнічаў у трынаццаці выставах, правёў некалькі персанальных. Да 1937 года ў яго было 700 палотнаў і вялікая колькасць малюнкаў. Колькі іх было б яшчэ...

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**
г. Маладзечна.



**Мазыр. Туш. 1932.**



**Прачкі на беразе Прыпяці. Туш. 1932.**

## АДВЕЧНЫ МАТЫЎ





**Да гэтых здымкаў, зробленых нашым фотакарэспандэнтам Віктарам СТАВЕРАМ на Гродзеншчыне, здаецца, можна і не пісаць ніякіх каментарыяў. Для тых беларусаў, хто паехаў у свет ад каня, ад плуга ці сахі, ад раллі і бору, і асвер (журавель) ля студні, і горланісты певень на капе сена ля пуні, і катлы з вёдрамі — цэлая паэма сялянскага жыцця і побыту. Кожны ўбачыць за гэтымі здымкамі свой асвер, свой лес, сваю сялібу.**

**І напэўна такі ўспамін сагрэе душу суайчынніка, дзе б ён ні жыў.**







**На кінастудыі "Беларусьфільм" ідуць здымкі мастацкага фільма "Разрываючы цішыню". Карціну здымае амерыканскі кінарэжысёр Менахем Голан. Сюжэт яе заснаваны на рэальных падзеях — захопе тэрарыстамі японскага пасольства ў Перу. Гэтая падзея адбылася год назад. Галоўныя ролі выконваюць галівудскія акцёры, сярод іх — Джозэф Лара, Рычард Лінг, Морын Ла Ветэ і іншыя. Здымае фільм беларускі аператар Юрый Марухін.**

**На жаль, беларускі глядач не ўбачыць "Разрываючы цішыню", бо пасля заканчэння здымак увесь адзняты матэрыял паедзе разам са здымачнай групай у Амерыку.**

**НА ЗДЫМКАх: амерыканскі кінарэжысёр Менахем ГОЛАН і беларускі кінааператар Юрый МАРУХІН; сцэна з фільма "Разрываючы цішыню".**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

## *БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР*

# З МАКАШОЎ — У ЖЫЦЦЁ, З МАКАШОЎ — У ВЕЧНАСЦЬ

У шэрагу беларускіх паэтаў-адраджэнцаў, якія пісалі ў дваццатыя гады, несумненна вылучаецца Уладзімір Жылка — творца еўрапейскага кшталту, шукальнік хараства ў жыцці і літаратуры і адкрывальнік яго, натура надзіва паэтычная, акрыленая і ўзнёслая, чалавек вялікай душэўнай чысціні і шчодрасці. І тым больш прыемна, што імя яго вернута з небыцця, стала набыткам сучаснага чытача. А адбылося гэта найперш дзякуючы Уладзіміру Калесніку — ці не самаму руплівому даследчыку творчасці У. Жылкі. Яму, яго жыццю і дзейнасці Уладзімір Андрэевіч прысвяціў некалькі артыкулаў, і ён жа прыклаў усе намаганні, каб як мага паўней сабраць творчую спадчыну У. Жылкі. Паступова, крок за крокам, У. Калеснік ішоў да адкрыцця яе, адшукваючы многае з таго, што ў свой час не было надрукавана. Так з'явіліся кнігі У. Жылкі "Вершы" (1970), "Пожні" (1986) і найбольш поўнае выданне "Творы", якога Уладзімір Андрэевіч так і не дачакаўся, бо заўчасна пайшоў з жыцця. Каб зберагчы напісанае У. Жылкам, парупіліся і ў беларускім замежжы: "Творы" У. Жылкі пабачылі свет у 1955 годзе ў Нью-Йорку пад рэдакцыяй Антона Адамовіча.

Але трэба быць справядлівым: са згаданымі кнігамі сёння можна пазнаёміцца толькі ў бібліятэках, бо яны даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Не змаглі аматары паэзіі, якім дорага імя У. Жылкі, набыць і кнігу, якая з'явілася ў 1996 годзе, бо яна выйшла ў серыі "Школьная бібліятэка" і ў продаж не паступала. У сувязі з гэтым, а таксама прымаючы пад увагу, якім ПАЭТАМ быў У. Жылка, узнікла неабходнасць новага выдання яго спадчыны. І вельмі добра, што за гэтую справу ўзяліся рупліўцы з Міжнароднага фонду "Беларускі кнігазбор". А ў выніку "Выбраныя творы" У. Жылкі папоўнілі бібліятэку лепшых набыткаў беларускай літаратуры "Беларускі кнігазбор", у якой дагэтуль з'явіліся "Выбраныя творы" Яна Чачота, "Выбраныя творы" Максіма Багдановіча, "Выбраныя творы" Вацлава Ластоўскага і зборнік "Беларускія летапісы і хронікі".

Адразу ж хацелася б выказаць шчырую ўдзячнасць за падрыхтоўку згаданага тома Міхасю Скоблу, які выступіў у трох іпастасях — укладальніка, аўтара прадмовы і аўтара каментарыяў. Але, што важна, ён укладаў не толькі тое, што ўвайшло ў кнігі, складзеныя У. Калеснікам. І не абмежаваўся асобнымі творамі, узятымі з нью-йоркскага выдання. Шэраг матэрыялаў — успаміны пра У. Жылку, яго лісты, асобныя вершы дагэтуль не публікаваліся, за выключэннем тых, што змяшчаліся ў перыядычным друку.

Значыць, ёсць падставы гаварыць пра сапраўдны даследчыцкі падыход да спадчыны У. Жылкі, імкненне зрабіць усё для таго, каб імя гэтага адраджэнца стала для сённяшніх прыхільнікаў беларускасці гэткім жа знаёмым і дарагім, як і імёны іншых, хто так рупна працаваў на нацыянальнай ніве. Акрамя таго, прынятыя захады М. Скоблам дазваляюць убачыць У. Жылку, як кажуць, ва ўвесь рост. Са старонак кнігі ён паўстае Паэтам, Грамадзянінам, Беларусам і праз свае творы, і з усебаковага аналізу яго жыццяпісу ў прадмове "Шукальнік хараства".

Паколькі газета "Голас Радзімы" ў асноўным разлічана на чытача, які жыве далёка ад Бацькаўшчыны, думаецца, не лішне згадаць асноўныя штрыхі жыццёвай і творчай біяграфіі У. Жылкі, адначасова пагаварыўшы і пра адметнасць кнігі "Выбраныя творы". Бо можа здарыцца і так, што некаторыя з нашых суайчыннікаў, якія не маюць магчымасці рэгулярна сачыць за кніжнымі навінкамі, што выходзяць на Беларусі, слаба ведаюць У. Жылку, ды і ўвогуле іх веданне беларускай літаратуры абмяжоўваецца толькі хрэстаматыйнымі імёнамі, хоць, калі быць праўдзівым да канца, і творам У. Жылкі месца ў хрэстаматыях.

Радзіма паэта — вёска Макашы, якая цяпер уваходзіць у склад Нясвіжскага раёна, што на Міншчыне. Нарадзіўся ён 27 мая 1900 года. У сям'і быў першынцам, пасля з'явіліся на свет браты Алег, Барыс і Кастусь. У 1914 годзе скончыў гарадское вучылішча ў Міры і ў чатырнаццацігадовым узросце трапіў у Мінск, дзе ўладкаваўся гандляром у царкоўнай краме. Бацькі разумелі, што без навукі дзецям цяжка пражыць, таму стараліся, каб у іх пад рукой заўсёды была патрэбная кніга. Брат У. Жылкі Барыс успамінаў: "Колькі... помню, то Уладзік вельмі любіў чытаць. Матка часта адбірала ў яго кніжкі і выпраўляла гуляць, але нічога не памагала, ён збіраўся ісці гуляць, але браў другую кніжку за пазуху і зашываўся туды, дзе б яго не турбавалі. Бацькі не шкадавалі грошай на набыццё кніжак, і іх у нас назбіралася шмат. Падчас пераезду адна падвода была цалкам загружана кніжкамі — Пушкін, Лермантаў, Гогаль, Цютчаў, Фет, Надсан, усе прылажэнні да журналаў. Былі ў нас і ўсе кніжкі беларускія, якія толькі выйшлі да 1914 года..."

Аднак у Мінску Уладзік затрымаўся нядоўга: у 1914 годзе паступіў у Багародзіцкае агранамічнае вучылішча ў Тульскай губерні. Праўда, па нейкіх прычынах і там знаходзіўся нядоўга. Вядома толькі, што ўжо ў 1916 годзе ён скончыў Слонімскую вышэйшую пачатковую школу. Жыў з бацькамі, калі наступілі рэвалюцыйныя падзеі 1917 года. І ў баку ад тых зменаў, што адбываліся наўкола, не застаўся. І не толькі хадзіў на мітынгі, якія праходзілі ў гэтыя дні ў горадзе, але і трапіў назіральнікам на Першы ўсебеларускі кангрэс...

З 1918 года У. Жылка пачаў працаваць аграномам у дзяржаўным маёнтку пад Мінскам. Там пазнаёміўся і з Міхасём Чаротам, будучым вядомым паэтам, аўтарам паэмы "Босыя на вогнішчы". А яшчэ былі іншыя знаёмствы, ужо ў Мінску... І з Ядвігіным Ш., і з Леапольдам Родзевічам, і са Змітраком Бядулем... І нават з Янкам Купалам, які наведваўся ў хату Жылкаў...

Пра што гаварылі яны, можна здагадвацца, бо ніякіх сведчанняў не засталося. Хіба некаторую яснасць уносяць зноў жа згадкі Б. Жылкі: "Уладзік расказваў, што зайшлі на скверык, што проці губернатарскага дома на Саборнай плошчы. Там стаяў сляпы жабрак з лерай. Вось яны з ім пагутарылі, далі яму грошай, а пасля сталі прасіць, каб ён зайграў "Лявоніху". Лернік доўга аднекваўся, але пасля таго, як Купала раскашэліўся, сыграў "Лявоніху", а пасля і польку. Засталіся ўсе вельмі задаволеныя — і жабрак, і Купала з братам".

Ды, відаць, адказ трэба шукаць і ў першым надрукаваным вершы У. Жылкі "Покліч", які з'явіўся ў газеце "Беларусь" 25 студзеня 1920 года:

**Пад штандар бел-чырвона-белы**
**Гартуйся, раць, адважна, смела**
**Адважных, храбрых ваяроў!**
**І ўспомняцца старых вякоў**
**Паходы мужныя у славе,**
**Часы Альгерда, Ізяслава,**
**Грунвальдскі з немцамі бой!**
**І боек даўні цяг з Масквой!**

**Пад знак Літоўскае Пагоні —**
**Абараняць краіны гоні,**
**Народ забраны вызваляць,**
**Ісці к святлу, святлом палаць —**
**Спяшайся той, хто к волі рвецца,**
**Ў кім беларуса сэрца б'ецца!**
**Збірайцесь — ўсе, як бы адзін, —**
**Арлы радзімых пушч, нізін!**

І У. Жылка, і Я. Купала думалі пра Беларусь, пра заўтрашні дзень Бацькаўшчыны. Дарэчы, У. Жылка вітаў абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. І цяжка сказаць, якім бы стаў яго ўдзел у тагачасных падзеях, калі б не дала знаць пра сябе хвароба: у лютым У. Жылка цяжка захварэў. Тры месяцы не мог устаць з пасцелі, а пасля падаўся да родзічаў. Спачатку жыў у бацькавай вёсцы Клецішча на Капыльшчыне, потым перабраўся ў матчыну — Падлессе, а гэта на Нясвіжчыне, дзе пісаў вершы, пасылаў іх у віленскія выданні. У "Нашай думцы" з імі пазнаёміўся Максім Гарэцкі і прыхільна паставіўся да іх. Але Падлессе паводле Брэсцкага мірнага дагавора апынулася пад Польшчай, таму У. Жылка перабраўся ў Вільню, дзе пазнаёміўся з Антонам Луцкевічам.

У 1923 годзе У. Жылка падаўся ў Прагу, паступіў ва універсітэт. Адразу акунуўся ў студэнцкае жыццё, знаходзіўся ў самым віры яго. Рэдагаваў часопіс "Перавясла", арганізоўваў вечарыны літаратуры, мастацтва. І гэта нягледзячы на тое, што хвароба прагрэсіравала: у час аднаго з выступленняў пайшла з горла кроў. Сіл надавала тое, што побач знаходзіліся сябры, і, вядома ж, узрадаваўся, калі, дзякуючы А. Луцкевічу, у Вільні ў 1924 годзе выйшла кніга "На ростані".

З вершаў гэтага зборніка відаць, што паэт па-ранейшаму шукаў свой шлях. І не знаходзіў яго:

**І торба вось, і кій дарожны:**
**Пара ў пуціну мне даўно...**
**А я нясмелы і трывожны,**
**А я — на ростані адно.**

У гэты час У. Жылка кідае позірк у бок Беларусі. Тады, як вядома, рабіліся захады па беларусізацыі, а яму ж хацелася прымаць у гэтым самы чынны ўдзел. Таму ў рэшце рэшт і прыняў канчатковае рашэнне — ехаць у Мінск. У лістападзе 1926 года ён накіраваўся на канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу, што праводзілася Акадэміяй навук БССР. Але, прыбыўшы ў сталіцу, удзелам у канферэнцыі не абмежаваўся. Хутка прыняў савецкае грамадзянства. Працаваў літсупрацоўнікам рэдакцыі газеты "Звязда", выкладаў беларускую літаратуру ў Мінскім музычным тэхнікуме. У 1927 годзе выйшла кніга "З палёў Заходняй Беларусі"...

Але было і іншае... Непрыманне паэзіі У. Жылкі тымі, хто толькі за сабой пакідаў права быць вартым новай літаратуры... Абвастрэнне класавай барацьбы ў краіне, а ён успрымаўся чужым, значыць небяспечным у першую чаргу... І як вынік — арышт 18 ліпеня 1930 года. З-за хваробы пратрымалі ў турме толькі месяц: разумелі, што і так "дойдзе". Узялі падпіску аб нявыездзе з Мінска і адпусцілі. А 10 сакавіка 1931-га выслалі на пяць гадоў у горад Уржум Кіраўскай вобласці. Там У. Жылка працаваў загадчыкам гаспадаркі і выкладчыкам літаратуры ў медыцынскім тэхнікуме. Там і памёр 1 сакавіка 1933 года.

Астатняе пра У. Жылку можна і трэба чытаць у яго творах. У гэтым сэнсе асабліва важны "Тастамент", адносна аўтарства якога доўгі час існавалі сумненні. Паколькі гэты твор упершыню быў апублікаваны ў "Беларускай газеце" ў 1942 годзе, знаходзіліся ахвотнікі сцвярджаць, што з'явіўся ён зусім не з-пад пяра У. Жылкі. Ды цяпер, калі ёсць успаміны Яўхіма Кіпеля "Апошнія дні Уладзіміра Жылкі" і "Згадка пра "Тастамент" Вітаўта Кіпеля (абодва матэрыялы змешчаны і ў аднатомніку), сумнявацца не даводзіцца, што гэта твор-развітанне, твор-запавет менавіта У. Жылкі, які, адчуваючы сваю хуткую канчыну ("Тастамент", відаць, пісаўся ў 1932 ці 1933 годзе), выказваў самае запаветнае:

**Няхай жыве крывіцкі люд!**
**Няхай квітнее край крывіцкі!**
**Я гэты свет убачыў тут**
**Дзіцём ля матчынае цыцкі**
**І рос: вясёлы шалапут,**
**З дзядоў, з прадзедаў сын мужыцкі,**
**На ёміне з яго палёў,**
**Здабытай з працы, з мазалёў.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**А каб ні злодзей, ні тыран,**
**Ні чалавек ліхі, пракляты**
**Не скралі вольнасці і ў зман**
**Не завялі сляпыя хаты, —**
**На варце стаўлю гнеў зацяты**
**Тваіх рабочых і сялян.**
**Калі між імі будзе еднасць —**
**Ліхое згіне у бясследнасць.**

"Увесь" У. Жылка і ў сваіх празаічных творах — найперш у "Дзённіку", у якім так шмат свайго, асабістага і ў якім так чутны не толькі ўласны боль, а і боль за ўсю Беларусь. А мо таму і боль за ўсю Бацькаўшчыну, што яго паэт так блізка прымаў да сэрца? Шмат даюць для разумення Жылкавага светапогляду, кола яго інтарэсаў і матэрыялы, прадстаўленыя ў раздзеле "Крытыка і публіцыстыка". Адных назваў дастаткова, каб упэўніцца, наколькі ўсё яго тычылася: "У справе ацэнкі Беларускага адраджэння", "Да 400-х угодкаў друку на Беларусі", "Народная адукацыя на Беларусі", "Белорусская книга от начала XX в. до мировой войны". І тут жа артыкулы, прысвечаныя асобным творам, — "Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.), "Янка Купала", "М. А. Някрасаў", "Максім Горкі — грамадзянін"... А які шырокі абсяг перакладчыцкай дзейнасці! Асобныя ўзнаўленні па-беларуску твораў з нарвежскай, украінскай, чэшскай, французскай моў і цудоўна перакладзеная паэма польскага пісьменніка Бруна Ясенскага "Слова пра Якуба Шэлю".

Для падагульнення гаворкі пра месца У. Жылкі ў беларускай літаратуры, у нацыянальнай культуры не лішне працытаваць М. Скоблу: "Паэт з еўрапейскай адукацыяй, ён і тварыў у рэчышчы еўрапейскім — у ягонай творчасці натуральна глядзеліся пентаметры і гекзаметры, санеты і вірале, верлібры і белыя вершы. Жылка напісаў першы ў беларускай літаратуры верш з кансананскай рыфмоўкай, спрабаваў стварыць новыя вершаваныя формы. Веданне антычнай літаратуры, класічнай французскай, нямецкай, чэшскай, польскай паэзіі, пэўна ж, падвышалі Жылку ў вачах былых студэнтаў педтэхнікумаў і рабфакаў. Мо хто і паглядаў скоса, але значна больш было захаплення і таварыскай спагады. Зычліўцы залічылі паэта да бясспрэчных мастакоў слова, называлі ў друку новым Багдановічам".

І ўсё ж ён, канечне ж, — ЖЫЛКА.

Уладзімір Жылка, які нарадзіўся ў вёсцы Макашы на Нясвіжчыне.

З Макашоў ён пайшоў у жыццё...

З Макашоў пачалася і ягоная дарога ў вечнасць.

А каб паняцце вечнасці ў дачыненні да яго жыцця і творчасці заставалася не нечым абстрактным, а канкрэтным, і з'явіліся "Выбраныя" творы яго ў "Беларускім кнігазборы". Чытайце і перачытвайце іх! А тыя, хто яшчэ застаецца нацыянальным нігілістам, бярыце гэтую кнігу ў рукі, і вы ўпэўніцеся, якая багатая і цікавая беларуская літаратура. Упэўніцеся дзякуючы аднаму У. Жылку. А колькі ж непаўторных імёнаў у ёй! Ды знаёмства з імі ў наступных тамах "Беларускага кнігазбору", што паступова становіцца па-сапраўднаму народнай бібліятэкай.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!**

# ВЯРТАННЕ

...Усё яшчэ помніцца: як страчаліся ў выдавецтве, у Саюзе пісьменнікаў, на вуліцы. Распытваў, усім цікавіўся, смяяўся...

— Зайшлі б як-небудзь вечарам. Пасядзелі б. Пагутарылі. Чайку папілі б... А то жывем па-суседску, а бачымся рэдка.

І сапраўды жылі па-суседску. І добра ведалася, што запрашэнне заўсёды шчырае, ад душы. І не было, здавалася, больш гасціннага і прыветнага дому ў Мінску, чым іх з Тамарай Рыгораўнай Цулукідзе дом. Усё ў іх было так згодна, так духоўна гарманічна і прыгожа. Вось ужо сапраўды: "І твар, і адзенне, і душа, і думкі..." І ніколі нідзе, і ні ў чым ні кроплі няшчырасці ці недабра, ці — Божа барані — зайздрасці, што нехта паспеў болей, выскачыў наперад ці выслужыўся...

Высакароднай светлай душы чалавек...

Уласная жыццёвая дарога Алеся Пальчэўскага не была ўсыпана ружамі. Ён спазнаў многа пакут і здзеку: рэпрэсіі, турмы, ссылкі, пасяленне ў глухім Краснаярскім краі... І ўсё роўна ён прайшоў, пражыў сваё жыццё з годнасцю. З высока ўзнятай галавой. Ён умеў заўсёды радавацца той сумленнай рабоце, якую рабіў: ці калі — з гора і бяды — з сякерай, з пілой у руках цяслярыў у суровай Сібіры, ці калі пісаў свае кнігі, ці працаваў у рэдакцыях, у выдавецтве, а потым многа год нязменным адказным сакратаром у часопісе "Вясёлка". І ўсім, хто быў з ім, таксама было лёгка і прыветна.

...У апошнюю дарогу да яго роднага Прусінава на мілай яго сэрцу Уздзеншчыне Алеся Пальчэўскага праводзілі яго блізкія, сябры, таварышы. Праводзіў лагодна красавіцкі дзень з цёплым вясновым дажджом... І як абяцанне новага жыцця, зелянела ўздоўж дарогі азіміна, руплівыя бароны баранавалі яравое поле, а над полем у небе званілі нястомныя жаўрукі... Сялянскі сын, ён вяртаўся да родных гоняў, якія схадзіў босымі нагамі яшчэ ў дзяцінстве. Вяртаўся на кароткі спачын — перад вечным сном — у родную бацькаву хату. Вяртаўся да суседзяў, якія любілі яго шчырай любоўю за яго дабрату, за ўважлівую да іх павагу і прыхільнасць.

...Яго труну мужчыны неслі па роднай вясковай вуліцы на плячах да самых могілак. А дзеці і моладзь, каму ён пакінуў сваю самую дарагую спадчыну — свае кнігі, — моладзь і дзеці неслі паперадзе яго труны вянкі і рассыпалі яму пад ногі кветкі.

Непадалёку на полі аралі трактарысты. Яны спынілі сваіх жалезных коней і, паскідаўшы шапкі, нібыта ў жалобнай варце, стаялі на свежай раллі, аж пакуль не апусцілі труну ў зямлю.

І гэта было непадробнае прызнанне Пісьменніка і яго Працы: у выдавецтве ляжалі два тамы яго твораў для дзяцей, падрыхтаваных Алесем Пальчэўскім да друку незадоўга да смерці. Ён не паспеў іх патрымаць у руках — сваю апошнюю радасць, якую дарue пісьменніку яго лёс.

...Алесь Пальчэўскі спачывае на вясковых могілках роднага Прусінава побач з бацькамі і братам. Пільнаваць яго дамоўку засталася магутная — да самага неба — гонкая хвоя. А над галавой яго схіляе салютнае голле белая бяроза.

# «ДЗЕ ТЫЯ ЛЮДЗІ?..»

## *(«ПРОСЦЕНЬКІЯ» ГІСТОРЫІ...)*

Успамінала аднаго разу Тамара Цулукідзе — член Саюза пісьменнікаў Беларусі, заслужаная артыстка Грузіі. (Як і ўсе, хто набыўся там, яна рэдка расказвала, што там была).

— Прыгналі ў лагер чарговую партыю. Жанчын, — успамінала Тамара Цулукідзе. — Сярод усяго стракатага таго натоўпу кідалася ў вочы дзяўчо. Гадоў 16-ці... Асецінка. Дзіця гор. Заціяты дзікаваты позірк. Расійскай мовы не ўмее. Маўчыць... Ні з ёю ніхто, ні яна ні да кога абазвацца не здолее... Роднасць гор толькі адгукнулася: Грузія. Тамара Цулукідзе.

— А цябе хоць за што сюды?!

— Празнык тансувал бустам Сталын.

— Хто танцаваў? Дзе?

— Клубам тансувал. Пара не стал. Бустам Сталын тансувал.

Што ж выявілася з далейшай той іх гаворкі?

...У нейкім паднебным ауле шчаслівы савецкі народ святкаваў вялікага кастрычніка. І клуб быў у тым ауле. І музыкі гралі. І, вядома ж, моладзь пайшла ў скокі... А яе ці таму, што, можа, яшчэ недарослая была, ці таму што джыгіта (пары) не хапіла ёй — яе пакінулі адну... А ёй жа таксама было весела! Ёй жа таксама хацелася танцаваць!..

Побач з ёю, ля сцяны, дзе яна адна стаяла, на падстаўцы пад чырвоным покрывам узвышаўся — надаваў клубу дзяржаўнай важнасці і зместу — невялічкі гіпсавы бюст Сталіна... Гарачае камсамольскае сэрца — як яму было ўтрываць? — дзяўчо схапіла ў абдымкі гіпсавага Сталіна і таксам пусцілася ў скокі!

...А назаўтра ў саклю на самай гары аула, дзе жыла яе сям'я, з'явіліся двое... "Стрэлбам..." Узброеныя... І забралі яе ад бацькоў, з роднае саклі. І павялі. З роднага аула павялі "турма сажал". — Павялі, павезлі ў турму.

...Вось такая "просценькая гісторыя" адбылася (адна з мільёнаў!), калі правіў намі вялікі айча ўсіх часоў і народаў..."

...Сама ж Тамара Цулукідзе, як жонка расстралянага "ворага народа" (першага яе мужа, славутага грузінскага рэжысёра Сандра Ахметэлі), прайшла таксама па турмах, па лагерах, па лесапавалах... З 1937 па 1946 год... Пасля паўторнага арышту ў 1948 годзе ў горадзе Курску, дзе яна працавала рэжысёрам лялечнага тэатра (вяртанне на радзіму, у Тбілісі, ёй было забаронена), у краснаярскай ужо ссылцы, лёс літасціва звёў яе жыццё з жыццём гэткага ж ссыльнага беларускага пісьменніка Алеся Пальчэўскага. Там яна стала яго жонкай.

...Пасля рэабілітацыі (1956 год), пасля "ўваскрэсення з памерлых", Тамара Цулукідзе жыла з Алесем Пальчэўскім у Мінску. Пісала на грузінскай і рускай мовах. Разам з Алесем перакладала на беларускую мову з грузінскай. У 1983 годзе выдала ў Тбілісі кнігу мемуараў "Всего одна жизнь" (на рускай мове) і стала шырока вядомай пісьменніцай!

Памерла Тамар Цулукідзе — пасля ўжо смерці Алеся Пальчэўскага — у Мінску ў 1991 годзе, паспеўшы годна ўвекавечыць яго памяць. У родным яго Прусінаве на Уздзеншчыне, у бацькавай хаце Алеся Пальчэўскага, яна стварыла бібліятэку для вяскоўцаў. На хаце ўстанавіла мемарыяльную дошку. На магіле Алеся Пальчэўскага ўзвышаецца велічны помнік з высакароднага мармуру...

Сама Тамара Цулукідзе — па яе волі — пахавана ў Тбілісі.

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**






**Кут мой забыты, безабаронны,**
**Зорыш пагаслых крыніц вачыма.**
**Некаму ты — ачужэлая зона,**
**Сэрцу майму ты да скону — радзіма.**

**Гэтыя радкі напісаў беларускі паэт Мікалай Мятліцкі ў сваім зборніку вершаў "Бабчын", прэзентацыя якога адбылася ў мінскай бібліятэцы № 10.**

**Кніга выдадзена на беларускай і рускай мовах. Крытыкі адзначаюць, што зборнік "Бабчын" пакіне прыкметны след у нашай літаратуры, прысвечанай чарнобыльскай трагедыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: зборнік вершаў "Бабчын"; выступае Іван ШАМЯКІН.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ

Калі кніжка літаратурнай крытыкі выдаецца накладам 2500 асобнікаў, то не ўсё яшчэ страчана. Жыве, значыць, наша айчыннае прыгожае пісьменства. Можна разлічваць, значыць, нашым беларускім пісьменнікам на чытача, на пэўную ўвагу да сваёй творчасці. Праўда, у кнігі, чый тыраж уразіў, — асаблівы прадмет літаратуразнаўчага доследу. Размова пра манаграфію Анатоля Вераб'я "Абуджаная памяць", пра нарыс жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча.

Варта зазначыць, што караткевічазнаўства ў айчыннай літаратуразнаўчай навуцы з году ў год шырыцца. У свой час, калі гаварыць пра асобныя кніжныя выданні, пачатак якраз і паклаў Анатоль Верабей. У 1985 годзе пабачыла свет яго кніга "Жывая повязь часоў". У 1990 годзе — "Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча" Адама Мальдзіса. У 1991 — "Уладзімір Караткевіч: праз гісторыю ў сучаснасць" Аркадзя Русецкага. У 1995 — "Пад ветразем дабра і прыгажосці" Вольгі Шынкарэнка. І можна быць упэўненым, што ўсе згаданыя здабыткі — толькі пачатак шырокага, шматбаковага асэнсавання месца Уладзіміра Караткевіча ў кантэксце ўсяе беларускай літаратуры.

Новая кніга Анатоля Вераб'я, прысвечаная жыццёвай і творчай біяграфіі вялікага мастака, як быццам з'яўляецца пэўнай адмецінай, вяхой у рабоце на ніве караткевічазнаўства ўвогуле. Даследчык падсумоўвае ўсё з надрукаванага, вядомага на сённяшні дзень са спадчыны У. Караткевіча. Імкнучыся, вядома ж, да аналізу, А. Верабей усё ж такі перш-наперш адзначае вехі, вымалёўвае кардынальныя, галоўныя абсягі, у межах якіх і павінна надалей развівацца караткевічазнаўства. Манаграфія "Абуджаная памяць" паўстае адначасова і падсумоўваннем, і вызначэннем, падказкай перспектыў.

Пабудова кнігі, магчыма, падасца некаму навукова-прасталінейнай. І тым не меней менавіта закладзеная літаратуразнаўцам пабудова, не асабліва арыгінальная, на першы погляд, робіць манаграфію зусім не складанай для самага рознага чытача. "Абуджаная памяць" зарыентавана перш за ўсё на настаўніка беларускай мовы і літаратуры, на студэнта-філолага, на вучня агульнаадукацыйнай школы. Адкрывае манаграфію раздзел "На пачатку дарогі". Даследчык акрэслівае жыватворныя ўплывы, што дапамаглі сфарміравацца мастацкаму таленту з маладосці. "Пад ветразем паэзіі" — разгляд паэтычнай дзялянкі ў творчасці Уладзіміра Караткевіча. "Гармонія харастве і праўды" — размова аб прозе пісьменніка. "Трагізм і веліч гісторыі" — разгляд драматургічных здабыткаў мастака. "З любоўю да зямлі і людзей" — даследаванне публіцыстычнага таленту Уладзіміра Караткевіча, размова пра яго як літаратурнага крытыка і перакладчыка. "Абуджаная памяць" — як быццам падсумоўванне зробленага, акрэсліванне мастака як адметнай постаці ў нашай айчыннай культуры. Завяршае манаграфію "Радавод Уладзіміра Караткевіча".

Манаграфія А. Вераб'я — рэч не зусім традыцыйная для беларускага літаратуразнаўства. Пісьменнікам, а не сухім крытыкам, які абагульнівае вядомае, паўстае Анатоль Верабей са старонак "Абуджанай памяці". Магчыма, на характар і стыль выкладання ўплывае і сам, калі так можна сказаць, прадмет увагі.

Найгрунтоўнейшым раздзелам работы А. Вераб'я з'яўляецца "Гармонія харастве і праўды". Фактычна — манаграфія ў манаграфіі. Але ж і Уладзімір Караткевіч надаваў прозе найбольшую ўвагу. Праз прозу менавіта ў большай ступені і выказваўся, выкладаў свае мастацкія, жыццёвыя погляды, сваю нацыянальную пазіцыю. І сярод задуманага да ажыццяўлення проза займала галоўнае месца. У хатнім архіве пісьменніка (пра гэта нагадвае і А. Верабей) захоўваецца ліст паперы ў лінейку, на якім Уладзімір Караткевіч выклаў сваю праграму, свае творчыя мары (меркаваў жа зрабіць 78 тамоў!):

1—2 тамы — Вершы
3 — Легенды
4—5 — Паэмы
6 — Раман у вершах
7—8 — Апавяданні
9—10 — Аповесці
11—15 — Раманы гістар. (ычныя)
16—20 — Раманы сучасныя
21—35 — Серыя "Век"
36—37 — Казкі і літ. (аратура) для дзяцей — у стылі Г. Х. Андэрсена
38—39 — Фантастычнае
40—43 — П'есы
44—45 — Запісы фальклору
46—47 — Мемуары
48—49 — Шляхі (дарожныя нататкі)
50 — Малая спад. (арожная) кніжыца
51—52 — Крытыка
53—56 — Гіст. (орыя) бел. (арускага) мастацтва (арх. (ітэктура), жывап. (іс), муз. (ыка), скульпт. (ура)
57—58 — Біяграфіі
59—61 — Гісторыя Белай Русі
62—64 — Пераклады
65—67 — Ліставанне
68 — Пегас дыбкі ("Пегас", "Пегас б'е задам", "Утаймаваны Пегас", "Перакітаіць кітайцаў")
69 — Паляўнічае
70 — Гіст(орыя) бел.(арускай) літаратуры
71—72 — Кінасцэнарый, лібрэта
73—75 — Публіцыстыка. Навука
76 — Вы, беларусы (прызыў да іх вярнуцца)
77 — Абарона мовы беларускай
78 — Кніга пра працу пісьменніка (тэорыя літаратуры).

Грандыёзнасці задуманага, хаця наробкам сталася ўсё ж не 78 тамоў, адпавядае і грандыёзнасць зробленага. Велічыня мастацкага таленту Уладзіміра Караткевіча патрабуе штодзённага прачытання. І найпершы, найболей уважлівы ў гэтай працы — дасведчаны, руплівы крытык, літаратуразнаўца Анатоль Верабей.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ПРЫСВЯЧАЕЦЦА АДАМУ МІЦКЕВІЧУ

На чарговым пасяджэнні секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей было абмеркавана пытанне аб удзеле ў мерапрыемствах, прысвечаных 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Разам з перакладчыкамі ў рабоце секцыі ўдзельнічала група студэнтаў і выкладчыкаў славістычнага факультэта БДУ. Было вырашана правесці рэспубліканскі конкурс даследчых прац вучняў і студэнтаў па тэматыцы, звязанай з жыццём і творчасцю славутага паэта. Акрамя таго, вырашылі абвясціць конкурс на лепшы пераклад з Міцкевіча. Прычым былі выбраны два абавязковыя пераклады: "Do Niemna" ("Да Нёмана") і "Pieśń filaretów" ("Песня філарэтаў"), яшчэ адзін верш ці ўрывак з больш буйнога твора ўдзельнік конкурсу можа выбраць сам.

## «ВЯЛІКДЗЕНЬ-98» У ТРАЕЦКІМ













(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У першы дзень велікоднага тыдня ў Траецкім прадмесці ў Мінску адбылося маляўнічае фальклорнае свята "Вялікдзень-98". Самадзейныя артысты — пятнаццаць калектываў з васьмі раёнаў Беларусі — прывезлі ў сталіцу сваё непаўторнае традыцыйнае мастацтва. Гучалі народныя абрадавыя песні, госці танцавалі, уражваючы гледачоў маляўнічымі строямі і майстэрствам. Старадаўняя Няміга весялілася, бо да артыстаў далучаліся і гледачы.

Свята было арганізавана Беларускім фондам культуры, які аддаў ганак свайго дому пад імправізаваную сцэну, Беларускім саюзам фалькларыстаў, Міністэрствам культуры і Дзяржаўным камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь. Свята гэта было прымеркавана таксама да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча, якое будзе адзначацца сёлета.

Свята ў прадмесці працягвалася да вечара, а з узгорка на беразе Свіслачы раз-пораз чуліся ўрачыстыя гукі званоў Свята-Духава сабора, што абвяшчалі аб пачатку велікоднага тыдня.

НА ЗДЫМКАХ: свята ў Траецкім прадмесці.

Фота Віктара СТАВЕРА.

# ЛІТАРАТУРНЫ ПЛЁН МІНЧАН ВЕНГЕРАВЫХ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

Распачынае яшчэ адну важкую працу — "Крыніцы слоўніка рускіх пісьменнікаў" (пабачыла свет чатыры тамы). І паралельна з гэтым клопатам вяртаецца да новага выдання свайго слоўніка, мяркуючы надрукаваць спярша "Папярэдні спіс рускіх пісьменнікаў і вучоных і першыя пра іх даведкі" (выйшлі два тамы "Папярэдняга спіса"). У спісе ўтрымліваецца 33 тысячы імёнаў (заканчэнне спіса знаходзіцца ў ІРЛІ).

Сучасныя літаратуразнаўцы лічаць, што бібліяграфічныя работы Венгерава дагэтуль захоўваюць сваё практычнае значэнне, з'яўляюцца лепшымі ўзорамі рускай бібліяграфіі. Між іншым, у ІРЛІ знаходзіцца і сабраная Венгеравым калекцыя іканаграфічных матэрыялаў — 35 тысяч (!) партрэтаў. Такі збор — яшчэ адзін подзвіг славутага бібліёграфа. Але ж і гэта не ўсё са зробленага колішнім мінчанінам. У 1893—1901 гадах літаратуразнаўца выпускае выданне "Руская паэзія" (сем выпускаў). Вершаваныя тэксты прадстаўлены былі разам з біяграфічнымі артыкуламі, каментарыямі і нават вытрымкамі з крытычных і навуковых артыкулаў. З 1901 года Венгераў — рэдактар "Бібліятэкі вялікіх пісьменнікаў" выдавецтва Бракгаўза і Эфрона, у склад якой уваходзяць каменціраваныя зборы твораў Пушкіна, Шэкспіра, Дж. Байрана, Мальера. У 1900 годзе даследчык распачынае поўны збор твораў В. Бялінскага. Пры жыцці Венгерава пабачыла свет 11 тамоў. Выданне завяршыў прафесар Спірыдонаў — 12 і 13 тамы.

Шмат сіл Сямён Афанасьевіч аддаваў педагагічнай дзейнасці. Стварыў у 1906 годзе ў Пецярбургскім універсітэце Пушкінскі семінарый. Прыцягнуў да вывучэння жыцця і творчасці вялікага паэта С. Бондзі, Ю. Тынянава, Б. Эйхенбаўма, Ю. Оксмана і шмат каго яшчэ. Памёр Венгераў у 1920 годзе ў Петраградзе. Пахаваны на Літаратарскіх мастках.

Досыць прыкметны след у гістаорыі рускай літаратуры пакінула і Зінаіда Венгерава. Скончыўшы ў 1881 годзе гімназію ў Мінску (дарэчы, у леташнім, 1997 годзе, мы маглі б адзначыць у красавіку 130-годдзе з дня нараджэння Венгеравай), Зінаіда два гады вучылася ў Вене. У 1884—1887 гадах — студэнтка Вышэйшых жаночых (Бястужаўскіх) курсаў. Займалася ў асноўным заходнееўрапейскай літаратурай, найбалей — англійскай. У 1887—1891 гадах юная Зінаіда Венгерава — слухачка Сарбоны і шэрагу англійскіх універсітэтаў. Такой падрыхтоўцы сучасныя аматары ад літаратуры могуць толькі пазайздросціць. Сур'ёзны літаратурны дэбют Венгеравай — артыкул "Джон Кітс і яго паэзія". І пасля вучобы Зінаіда падоўгу жыла за мяжою, найбольш — у Англіі. Была блізка знаёмай з шэрагам еўрапейскіх літаратараў. Перакладала на англійскую мову творы Л. Талстога, друкавала артыкулы пра рускую літаратуру ў замежным друку.

У 1890-х гадах Венгерава збліжаецца з групай пісьменнікаў, якія вызначаліся прыхільнасцю да сімвалізму, — Мінскім, Меражкоўскім, Гіпіус, іншымі літаратарамі, чые імёны і сёння выразна гучаць у гісторыі рускай літаратуры. У асноўным Зінаіда Афанасьеўна друкуецца ў той час у "Северном вестнике", "Вестнике Европы". У 1893—1908 гадах у апошнім са згаданых часопісаў вядзе раздзел "Навіны замежнай літаратуры". Часам супрацоўнічае з часопісамі "Мир божий", "Образование", "Северный курьер", "Аполлон", "Русская мысль", "Нива", іншымі выданнямі. Найболей істотныя артыкулы Венгеравай сабраны ў трохтомнік "Літаратурныя характары". Запланавала Зінаіда Афанасьеўна і выданне дзесяцітомнага збору твораў. На жаль, пабачыў свет толькі 1-шы том — "Англійскія пісьменнікі XIX стагоддзя" (у Санкт-Пецярбургу ў 1913 годзе). Сама Венгерава ў прадмове да збору твораў заўважыла, што яе перш-наперш цікавяць тыя літаратурныя творы, якія "стаяць у той альбо іншай сувязі з духоўным жыццём Расіі".

Унікальныя здабыткі ажыццявіла колішняя мінская гімназістка ў перакладчыцкай галіне. Болей за 200 твораў пераклала Венгерава на рускую мову. Зінаідзе Афанасьеўне належыць першы пераклад рамана Э. Войніч "Авадзень". Што цікава, у выданні "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" знайшлося месца для Этэль Ліліян Войніч. Ёй прысвечаны асобны энцыклапедычны артыкул. А вось пра Венгераву як перакладчыцу славутага твора і не згадваецца, на вялікі жаль. Між іншым, "Авадзень" у перакладзе Зінаіды Афанасьеўны вытрымаў 9 выданняў.

Памерла Венгерава 29 чэрвеня 1941 года ў Нью-Йорку. З роду мінскіх Венгеравых — яшчэ і піяністка Ірына Венгерава. Яна жыла пасля 1917 года ў ЗША.

Прасочваючы жыццёвыя сцежкі-дарожкі, творчыя абсягі дзейнасці Венгеравых, вядома ж, хацелася б болей ведаць пра іх мінскі перыяд. Да гэтага і павінен быць, безумоўна, скіраваны ўвесь далейшы краязнаўчы пошук.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 698.
Падпісана да друку 27. 04. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.